## *Прывітанне, сябры!*

*Канец траўня – пераходны час, нібы масток у лета. Мы з лёгкім пачуццём адпускаем вясну і прадчуваем летнюю пару, каб слухаць спевы птушак, марыць, любавацца прыродай... Мы прапануем прайсці гэты масток у кампаніі з ALOVAK: прагуляцца са стваральніцамі дзіцячага адзення, захапіць з сабой заснавальніка школы каліграфіі, пачаставацца карысным смузі, набраць цэлыя заплечнікі кары, натхніцца сучасным дызайнам і народнымі традыцыямі... У гэтым нумары вы знойдзеце шмат практычнай інфармацыі – чытання хопіць надоўга!*

*Нашаму часопісу ў красавіку споўніўся адзін год. Мы дзякуем чытачам, аўтарам, героям – за тое, што былі з намі ўвесь гэты час, падтрымлівалі і пісалі цёплыя лісты, натхнялі і верылі ў нас! Абяцаем, што будзем адкрываць новыя гарызонты – разам з вамі.*

***Давайце ўздыхнём на поўныя грудзі і адчуем: усё ў парадку. Усё ў поўным парадку!***

*Ваша каманда ALOVAK*

# КАМАНДА ALOVAK

## *СТВАРАЛЬНІКІ ЧАСОПІСА:*

Кацярына БУТО



Ірына БЕЛЬСКАЯ



## *РЭДАКТАРЫ:*

Надзея ЗІМІРАВА



Вольга БАРЫСЕНКА



Аксана СЕМЯНЬКЕВІЧ



## *НАД НУМАРАМ ПРАЦАВАЛІ:*

Ірына АГЕЙЧЫК
*аўтар*



Вікторыя АНЖЭ
*аўтар*



Яна БУНЦЭВІЧ
*ілюстратар*



Дар’я УЛАСАВА
*ілюстратар*



Наста ГЛУШКО
*аўтар*



Таццяна ГРОСЛЕР
*аўтар, перакладчык*



Яна ЯФРЭМАВА
*фатограф*



Марыя КЛІМЕНЦЬЕВА
*аўтар*



Аліна КОСІК
*ілюстратар*



Аксана ЛЯЗОЎСКАЯ
*аўтар*



Марыя МАРАЗЕВІЧ
*аўтар*



Юля ПРАШКОВІЧ
*аўтар*



Марыя СОНГАЛЬ
*аўтар, фатограф*



Ксенія САСНІНА
*аўтар*



Таццяна ХЛАПКОВА
*аўтар*



Кацярына ЧАРНЯЎСКАЯ
*аўтар*



Вольга ЯЦКЕВІЧ
*ілюстратар*



*Хочаце прымаць удзел у стварэнні часопіса ALOVAK?
Раскажыце нам пра сябе на alovakmag@gmail.com

Рэклама ў часопісе ALOVAK
Мы разгледзім вашы заяўкі на alovakmag@gmail.com


16


32


78


# майстэрня
ALOVAK
150

# КАРА

*Прадметам шостага нумара ALOVAK стала кара дрэва, пра што мы не пашкадавалі ні хвіліны. Па-першае, кара дасяжная ўсім і кожнаму ў любы час года, па-другое, працаваць з ёй вельмі прыемна, а вырабы атрымліваюцца непаўторнымі і незвычайна цёплымі. Хутчэй глядзім, што ж такога цікавага можна зрабіць з кары!*




# Ваза для кветак

Да літровага слоіка прыкладзіце доўгія кавалкі кары, папярэдне ачышчаныя жорсткай шчоткай ад смецця, перавяжыце ільняным шпагатам у некалькіх месцах. Стыкуйце кавалкі, імкнучыся пазбегнуць прасветаў.
Спрасціць задачу можна так: надзеньце на слоік гумкі для грошаў; расцягваючы гумкі, прасоўвайце палоскі кары; абматайце кару шпагатам, гумкі зніміце.

Фота: Кацярына Буто




## Алоўчніца

Кара – выдатны матэрыял для дэкору каробак, бляшанак і скрыначак. Мы ўзялі драўляную скрынку і абклеілі яе карой. Клей выкарыстоўвалі сталярны, для дрэва. Прамежкі паміж кавалкамі кары запоўнілі дробнай пасыпкай з кары і моху. Спачатку можна не падганяць кару да памеру скрынкі. Пасля высыхання клею непатрэбныя кавалачкі лёгка адпілаваць.

Фота: Кацярына Буто



## Фігуркі

Кара вельмі падатлівы матэрыял, яна лёгка рэжацца нават звычайным канцылярскім нажом, дазваляючы надаваць вырабам любыя формы. Кавалачак кары часцяком сам падказвае гатовы вобраз. З атрыманых фігурак можна вырабіць брошку, прыляпіўшы з адваротнага боку нарыхтоўку-аснову альбо інтэр’ерную падвеску, прымацаваўшы пяцельку з ільнянога шпагату. Неабходныя дэталі вы можаце дамаляваць тонкім перманентным маркерам або фарбай.

Фота: Кацярына Буто








## Караблік

З кары атрымліваюцца выдатныя караблікі. Для гэтага трэба зусім нічога. З кары майструем судна, з палачкі – мачту, а з паперы – ветразь. У судне робім дзірку і ўстаўляем мачту з ветразем. На ветразі можна напісаць сваё жаданне і пусціць караблік па рацэ, каб мары здзяйсняліся. Або разам з сябрамі і дзецьмі зладзіць спаборніцтвы па запуску караблікаў.

Фота: Кацярына Буто




## Рамка

Калі верхні пласт кары зрэзаць нажом, вы ўбачыце цалкам новую цікавую фактуру. Выкарыстоўваючы сталярны клей, ёю можна абляпіць рамку. А счышчанае “смецце” спатрэбіцца для маскіроўкі прабелаў паміж кавалачкамі кары. Раім спачатку затанаваць рамку ў цёмны колер (марылкай або акрылавай фарбай), так прабелы ў стыках будуць менш прыкметнымі.

Фота: Кацярына Буто




## Карціна

Кара – вельмі выразны фактурны матэрыял, які можна выкарыстоўваць у жывапісных работах для імітацыі зямлі або дрэў. Афарбуйце палатно асноўным тонам, прыклейце кару і прамалюйце дэталі.

Фота: Кацярына Буто




# Кора-арт

Непаўторны малюнак і фактура кары дрэва натхніла мастачку Таццяну Хлапкову на стварэнне сваіх работ. Такія мілыя рэчы не застануцца незаўважанымі і абавязкова выклічуць усмешку.

Фота: instagram.com/tkhlopkova







# Жывапіс па бяросце

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота Святланы Канстанцінавай

*Такі матэрыял для вырабаў ручной працы, як бяроста, вядомы са старадаўніх часоў. Апроч сваіх практычных перавагаў, бяроста мае незвычайна прыгожы і непаўторны малюнак паверхні. Усе вартасці гэтага прыроднага матэрыялу падкрэслівае ў сваіх карцінах мастачка Святлана КАНСТАНЦІНАВА. З чытачамі ALOVAK майстра дзеліцца практычнымі парадамі па роспісе бярости.*

**Бяроста** – верхні пласт кары бярозы.
З бяросты выраблялі цацкі, посуд, лапці, аплятала керамічныя вырабы, прымянялі ў будоўлі і майстравалі лодкі. Сёння гэты матэрыял выкарыстоўваюць у асноўным для вырабу сувеніраў, упрыгажэнняў, посуду, кошыкаў і пад.



Паводле адукацыі Святлана – мастак па тканінах, але вось ужо 40 гадоў працуе з бяростай: *"Магчымасці гэтага матэрыялу дазваляюць мне абыграць тое, што я бачу ў натуры. Кавалак бяросты можна павярнуць як заўгодна. Я абіраю такі ракурс, каб рэльеф дакладна паўтараў мясцовасць, якую я хачу адлюстраваць".*

Кола сюжэтаў у мастачкі шырокі: у яе працах можна ўбачыць і прыродныя матывы, і гарадскія замалёўкі. Апроч родных мясцін, Святлану натхняюць і ўбачаныя краіны, напрыклад, Кітай, Грэцыя. Бяроста цікавая тым, што сюжэты можна паўтарыць, а карціны атрымаюцца ўсё роўна рознымі. Сама кара не дазваляе здрабіць аднолькавыя працы, так што кожная ўнікальная: *"Мая задача ажывіць рэльеф. Пры дапамозе колеру, кампазіцыі і майго ўяўлення. Бывае, я доўга гляджу на кавалак бяросты. Самае складанае – гэта намаляваць вачамі, прыдумаць. А выявіць – справа тэхнікі".*



## Парады па тэхніцы роспісу бяросты ад Святланы Канстанцінавай:

1. Працэс працы пачынаецца ў лесе, калі я знаходжу патрэбны кавалак бяросты. Кару збіраю з паваленых дрэваў: гэта можна зрабіць у любы час года. З дрэва здымаецца тонкі верхні пласт белага колеру. Гэта можна зрабіць шчоткай ці нажом. Дома бярозу вымываю, чышчу, апрацоўваю і рыхтую да працы.

2. Складанасць у працы з берастай у тым, што дрэва мае цыліндрычную форму, таму матэрыял будзе імкнуцца да таго, каб вярнуцца да свайго першапачатковага стану – скручвацца. Трэба своечасова паклапаціцца пра гэта: тэрмічна апрацаваць бяросту – прапрасаваць, пакласці пад прэс (у мяне гэта металічныя пласціны). Пад прэсам тонкую кару аптымальна трымаць некалькі тыдняў, тоўстую – даўжэй.

3. Калі не атрымалася выпраміць бяросту, карціну можна зрабіць у выглядзе скруткі.

4. Спачатку я фіксірую бяросту, прыклейваючы яе на аснову (ДВП ці фанеру), якую можна будзе ўставіць у раму. Для гэтага падыдзе звычайны клей ПВА. А можна не прыклейваць, а адразу ўстаўляць у раму.

5. На бяросце паверхня шаўкавістая, калі выпадкова пакінуць на ёй які-небудзь след, прыбраць яго ўжо нельга. Трэба, каб выява атрымалася з першага разу. Для гэтага спачатку можна зрабіць накід на паперы.

6. Сюжэт пачынаю прапісваць з дальняга плану. Нешта пазначаю белай фарбай. Усе дэталі прамалёўваю тонкім пэндзлікам.



7. Паверхня на бяросце няроўная, любыя шурпатасці можна выкарыстоўваць як элемент карціны – рэльеф, дрэвы, неба і г.д.

8. З інструментаў карыстаюся пэндзлямі рознай таўшчыні, жорсткасці і мяккасці. Трэба быць гатовымі да таго, што пэндзлі досыць хутка сціраюцца праз шурпатую паверхню.

9. Аддаю перавагу тэмперным і акрылавым фарбам. Часам пішу алеем, але ён дае непажаданы бляск і доўга сохне. Тэмперныя фарбы лепшыя ў тым, што яны водараспушчальныя, але пры высыханні ўтвараюць нераспушчальную плёнку.





Карыснае:

Святлана Канстанцінава, мастачка па бяросце

stranamasterov.by/master/swetoys-beresta

# Голас лесу

## ці гісторыя адной скульптуры з кары

Тэкст: Кацярына Буто
Фота творчай майстэрні "Эхо"

*Кара дрэў захоўвае ў сабе вялікі творчы патэнцыял. Пры дапамозе гэтага прыроднага матэрыялу можна стварыць нават скульптуру, як гэта зрабілі маладыя беларускія мастакі Паліна ПІРАГОВА і Васіль ЦІМАШОЎ.*

Аўтары скульптуры вучыліся на адным курсе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, ажаніліся, стварылі майстэрню прафесійных мастакоў-скульптараў "Эхо" і зараз працуюць разам у гімназіі-каледжы мастацтваў у Мінску. А самае галоўнае – натхняюць адно аднаго.

Ідэя стварэння скульптуры з кары прыйшла выпадкова, у працэсе працы над іншымі творамі. Пара прызнаецца, што такія "выпадковыя" стварэнні даюцца ім лягчэй і хутчэй за ўсё. Так атрымалася і гэтым разам.

Усё пачалося з незвычайнай, плеценай з лазы шпакоўні. Працуючы над ёй, скульптары зразумелі, што з гэтага матэрыялу можна зрабіць скульптуру, узяўшы за аснову звараны з металу каркас. Шпакоўня адышла на задні план, так з'явіліся эксперыментальныя працы "Прыродная сувязь", "Абуджэнне", "Абдымкі".

Эскіз скульптуры "Голас лесу" быў прыдуманы даўно, ён жа з'яўляецца лагатыпам іх творчай майстэрні "Эха". Скульптары планавалі выканаць яго ў метале вышынёй 5 м. Але паспяховы вопыт працы з каркасам ды лазой і сама форма будучай скульптуры раптоўна падштурхнулі да думкі паспрабаваць зрабіць яе з кары дрэва.

Праца над "Голасам лесу" заняла каля двух месяцаў, аніводнае дрэва ў працэсе не пацярпела: уся кара для скульптуры была сабраная з паваленых дрэваў на высечцы лесу. "У той час стаяла спёка, кара вельмі хутка высыхала, а працаваць было істотна менавіта з сырым матэрыялам. Таму ездзілі ў лес разоў пяць, рабілі ўсё хутка і ўдвух, каб паспець выкарыстаць прывезеную за адну паездку кару", – успамінаюць скульптары.

Працаваць з карой Паліне і Васілю спадабалася, паводле іх словаў, гэта цікавы і прыемны навобмацак матэрыял, да якога яны абавязкова вернуцца. Істотна толькі, каб пад яе "лягла" форма аб'екту, а ідэі ўжо ёсць: вазоны-клумбы для вулічных раслінаў, калоны-дрэвы ў інтэр'еры.

Ад першапачатковай задумкі стварыць скульптуру вышынёй у пяць метраў адмовіліся, спыніўшыся на трох і вырабіўшы яе разборнай. Тым самым з’явілася магчымасць транспарціроўкі: скульптура ўжо пабывала на XI Нацыянальным фестывалі архітэктуры “Мінск-2015” (экспазіцыя ў Верхнім горадзе), Рэспубліканскай моладзевай выставе “Сэлфі” (Палац мастацтваў, Мінск). Яшчэ адно арт-мерапрыемства запланаванае на бліжні час, пасля чаго твор пераедзе на пастаяннае месца жыхарства ў загарадні ўчастак маладзёнаў, дзе яны мараць стварыць уласны парк скульптур.

Першапачаткова працу назвалі проста “Голас”, прыстаўку “лесу” дадалі пазней, каб людзям была больш зразумелай задума. Калі прыглядзецца да скульптуры, назва лёгка тлумачыцца: у ёй можна ўбачыць выяву нёбнага язычка, які адыгрывае істотную ролю ў фарміраванні гукаў маўлення. Бака-





выя часткі, што ўтвараюць арку, нагадваюць адначасова і ствалы дрэваў, і стылізаваныя фігуры людзей. У Паліны і Васіля ёсць яшчэ адно тлумачэнне формы свайго твора: "У кожнага мастака, у кожнага чалавека ёсць свой голас. Мы ўсе індывідуальнасці і асобы. Мы ствараем рэчы, якія жывуць потым сваім жыццём – гэта падобна да рэха, гукі. Мастак "сказаў" – з'явілася рэч – і кожны бачыць, паглынае гэты гук па-свойму".

А на пытанне, чый гэта голас, скульптары, не згаворваючыся, адказваюць "наш" – гэта голас і сімвал іх сям'і і творчага звязу: "Калі б у нас быў герб, то ён бы выглядаў менавіта так. Калі мы ствараем скульптуры, робім так, каб падабалася абодвум. У нас добра атрымліваецца чуць і падтрымліваць адно аднаго, і гэта даецца лёгка".

## Тэхнічныя дэталі:

- Аснова скульптуры – каркас з металу.
- На каркасе – 2-3 пласты пластыкавай сеткі, якая да гэтага доўга знаходзілася ў растворы з фібрабетонам.
- Драўняная кара прамазваецца поліўрэтанавым клеем і, пакуль клей не высахне, выкладваецца на сетку па форме.
- Кожны кавалак кары з няроўнымі краямі, паверхня скульптуры збіраецца, як мазаіка.
- Скульптура разборная, складаецца з 9 частак.

## Карысная інфармацыя:

Паліна ПІРАГОВА і Васіль ЦІМАШОЎ,
творчая майстэрня "Эхо"

facebook.com/ЭХО-797569390342419

# БЯРОСТА + КЕРАМІКА

Тэкст, фота: Марына Турлай

*Бяроста выкарыстоўваецца і ў сучасным дызайне. Пра свой вопыт працы з гэтым матэрыялам распавядае расійскі дызайнер Марына ТУРЛАЙ – удзельніца Мінскага тыдня дызайну-2016.*

## Ідэя

Праект кубачкаў з фаянсу ў берасцяным чахле я распрацоўвала ў перыяд крызісу, у сувязі з чым выкарыстоўвала матэрыялы, распаўсюджаныя ў рэгіёне, у якім я працую. Для Расіі бяроста – сімвалічны і даступны матэрыял, таму як дызайнер я вырашыла пераглядзець яго выкарыстанне. Пры тэставанні і даследаванні высветлілася, што кара бярозы валодае надзвычайнымі ўласцівасцямі, сапраўдны рай для дызайнера: яна эластычная, трывалая і ў той жа час мяккая, як скура. Больш за тое, кожны малюнак на ёй непаўторны. Але ўсё ж ёй патрэбны каркас, таму ў спалучэнні з керамікай атрымаўся выдатны спосаб паглядзець на матэрыял і посуд па-новаму.

## Працэс

Для кожнай устаўкі з бяросты вырабляецца матрыца – молдынгавая форма для фармоўкі пад гарачай парай. Для кубачкаў з азбукай Брайля вырабляецца матрыца пад кожнае слова. Было цяжка "ажаніць" кераміку і бяросту – абодва матэрыялы дастаткова капрызлівыя, кераміка дае ўсадку, таму кожны міліметр мае значэнне пры вылічэнні дыяметру берасцяной часткі.

## Матэрыял

На блышыных кірмашах прадаюцца берасцяныя туесы XIX-XX стст. у выдатным стане, ужо па гэтым можна рабіць выснову пра трываласць і доўгатэрміновасць матэрыялу. Хочацца яшчэ адзначыць тэрмаўласцівасці бяросты: калі наліваеш кіпень у кубак, бяроста толькі злёгку награецца, такім чынам абараняе рукі ад апёку. На мой погляд, ручкі ў посуду – гэта своеасаблівая мыліца, нам уласцівыя больш натуральныя рухі, напрыклад захват прадмета цалкам. Шчыра прызнацца, берасцяны чахол – мой гонар, бо я прынцыпова не хацела выкарыстоўваць якія-небудзь спосабы замацавання, апроч натуральных. Замок распрацоўваўся каля месяца, каб бяроста шчыльна аблягала кераміку і не злятала.

**Карысная інфармацыя:**

Марына Турлай, дызайнер

facebook.com/MarinaTurlayDesign/

# Шлях з Сібіры ў Еўропу

Тэкст, фота: Настасся Кашчэева

*Дызайнер Настасся КАШЧЭЕВА ўжо каля 10 гадоў жыве і працуе ў Берліне, а нарадзілася і вырасла ў сібірскім горадзе Краснаярску. Не дзіва, што дызайнерка абрала ў якасці аднаго з асноўных матэрыялаў у сваёй дзейнасці бярösту – гэты матэрыял традыцыйна быў папулярным у многіх народаў Сібіры пры вырабе прадметаў побыту.*

*Настасся распавяла ALOVAK пра ўплыў традыцыйных рамёстваў на сучасны прадметны дызайн у Еўропе і пра тое, як адкрыла для сябе бярösту.*

У апошні час еўрапейскія дызайнеры ўсё часцей звяртаюцца да традыцыйных рамесных матываў і ствараюць унікальныя аб’екты, сумяшчаючы ручную працу з серыйнай вытворчасцю. Мяне радуе гэтая тэндэнцыя, а асабліва – станоўчы водгук спажыўцоў. Урэшце людзі пачалі разумець, наколькі важная ручная праца і захаванне традыцыйных рамёстваў. У Еўропе з’явіліся арганізацыі, якія дапамагаюць рамесным вытворчасцям выжыць ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі з буйнымі прамысловымі прадпрыемствамі. Адна з мер – прыцягненне дызайнераў і стварэнне цэлых арцеляў, накіраваных на доўгатэрміновае ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва.

Для сябе я асабліва вылучаю тэму выбару матэрыялаў, у першую чаргу прыродных, іх даследаванне і адкрыццё новых спосабаў апрацоўкі і прымянення. Яшчэ мяне прыцягвае тэма рамёстваў, яна дае прадметным дызайнерам магчымасць зразумець і адчуць усю каштоўнасць прадметаў, створаных з увагай і любоўю да кожнай дэталі.

**Мой галоўны праект на дадзены момант – бяроста.** Гэта дзіўны прыродны матэрыял і працаваць з ім неверагодна прыемна. У бяросты ёсць шэраг асаблівасцяў, якія пачынаеш разумець, набраўшыся досведу і навыкаў у працы з матэрыялам. Сёння берасцяны промысел практычна цалкам страціў свой першапачатковы ўтылітарны характар і знаходзіць выкарыстанне толькі ў дэкаратыўнай і сувенірнай прадукцыі. Аднак мала хто ведае, што бяроста – вельмі трывалы і даўгавечны матэрыял, які валодае моцна выяўленымі антыбактэрыяльнымі і воданепранікальнымі ўласцівасцямі. Раней бяроста замяняла людзям пластык і часта ўжывалася ў будаўніцтве і ў побыце – для стварэння абутку, торбаў і інш. Вырабы з бяросты служаць шмат гадоў і не губляюць сваіх якасцяў. Напрыклад, хлеб у кантэйнеры з бяросты захоўваецца ў 2-3 разы даўжэй, чым у драўляных або металічных ёмістасцях.

У выніку інтэнсіўнага працэсу даследаванняў у мяне з'явілася столькі ідэй па выкарыстанні бярости, што я вырашыла пачаць самастойную дзейнасць з рэалізацыі менавіта іх, такім чынам падтрымліваючы сібірскіх майстроў. У стварэнні аб'ектаў я ў першую чаргу адштурхоўваюся ад матэрыялу і яго функцыянальных якасцяў, эстэтычны аспект з'яўляецца ўсяго толькі адным са складнікаў.

## Прадметы з бярости дызайнера Настассі Кашчэевай:

• крэсла "Сібірак", якое заняло прызавое месца на выставе маладых дызайнераў Salone Satellite у 2014 годзе;

• серыя аб'ектаў "From Siberia", якая складаецца з трох прадметаў:
- Свяцільня Svetoch,
- Зэдлік Taburet,
- Ёмістасці для захоўвання сыпучых рэчываў Tuesa;

• аправы для акуляраў Berezka (сумесны праект з сібірскім брэндам Brevno).

Я планую пашырэнне лінейкі і стварэнне новых аб'ектаў з бярости, якія таксама будуць вырабляцца ў Сібіры для падтрымкі рэгіянальных майстроў. Мая мэта – вывесці гэты матэрыял на міжнародны ўзровень і дамагчыся прызнання перавагі яго ўтылітарных якасцяў над сувенірна-дэкаратыўнымі.

### Карысная інфармацыя:

Настасся Кашчэева, прадметны дызайнер
anastasiyakoshcheeva.com

# *паэзія* ТКАНІНЫ

*Тканіны, створаныя ўласнаруч, гарманічна рыфмуюцца са спакойнымі тонамі і адценнямі беларускай прыроды. Прасякнутыя водарам траў, гэтыя тканіны быццам бы вытканыя ветрам...*



Нашымі галоўнымі памочнікамі ў гэтай фотасесіі сталі неверагодная прырода і атмасфера філіяла музея беларускага паэта Янкі Купалы ў вёсцы Вязынка пад Мінскам.

# Тканіны ручной работы

*Тканіны можна ствараць поўнасцю з "нуля", вырабляючы іх уручную, а можна разнастайнымі тэхнікамі афарбоўваць фабрычныя палотны.*

## Ручное ткацтва

"Тэхналогія сучаснага ручнога ткацтва нічым не адрозніваецца ад таго, як ткалі нашыя прабабулі. Усе этапы працэсу выконваюцца без дапамогі машын: ад навівання асновы да вырабу палатна. Розніца толькі ў тым, што сёння ў нашым распараджэнні большая разнастайнасць матэрыялаў. Мы можам выкарыстоўваць беларускі лён разам з італьянскім кашэмірам ці злучаць японскі шоўк з канадскім мерыносам. Калі браць тонкае прадзіва, то вытканае рукамі палатно атрымліваецца надзвычайна мяккім і фактурным, акрамя таго, вырабы, як правіла, адзінкавыя. Бо з-пад рук нават самага вопытнага ткача выходзіць не больш за 5-7 метраў палатна ў дзень".

*Аксана Вінаградава, Heartiness*

## Шаўкаграфія

"Сутнасць шаўкаграфіі заключаецца ў тым, што выява наносіцца на тканіну пры дапамозе трафарэтнай друкаванай формы, праз якую фарба пранікае на матэрыял. Шаўкаграфская сетка, якая нацягнута на спецыяльную раму, пакрываецца фотапластам, на яе пераносіцца малюнак з калькі. Затым ён засвечваецца і тым самым пераносіцца на фотапласт, цвярдзее. Тое месца, дзе выява была чорнай, вымываецца з сеткі струменем вады. Рама сохне, і такім чынам атрымліваецца трафарэт. Далей праца працягваецца пры дапамозе фарбаў. Я рыхтую спецыяльныя рамы на кожны элемент, а сам малюнак на тканіне складаю з розных такіх элементаў шляхам творчага нанясення, то бок без разнастайных разлікаў і замераў. Свайго роду жывапіс".

*Настасся Ямінская, Jamido monofaktura*

## Экапрынт

"Сутнасць экаафарбоўвання ў сутыкненні прыродных матэрыялаў: лісця, ягад, кары і інш. з тканінай. Працэс займае мінімум тры гадзіны – і гэта толькі час варкі. Нашмат больш часу ідзе на падрыхтоўку працэсу. Спачатку трэба падабраць і падрыхтаваць тканіны, памыўшы іх у пэўным растворы, каб потым малюнак замацаваўся. Неабходна падрыхтаваць лісце, прыдумаць размеркаванне для іх, узор. Затым акуратна закруціць тканіну разам з раслінамі і абвязаць вяроўкай. Я вару на вуліцы, каб не ўдыхаць пару са шкоднымі рэчывамі. Калі ж зусім не выкарыстоўваць хімічныя сродкі, то эфект будзе няўстойлівым і з цягам часу колер будзе вымывацца. Аднак ёсць і вельмі ўстойлівыя варыянты для афарбоўвання, напрыклад, кара".

*Кацярына Кабанава, Poetka by Kabanova*

# Друкуем гароднінай

*Самы просты і даступны спосаб зрабіць штампы для друку па тканіне – выразаць іх з гародніны. Гародніну трэба браць цвёрдую: бульба, морква і пад.*

1. Вымыйце і разрэжце гародніну так, каб атрыманы штамп было зручна трымаць у руках (не дужа коратка). Мы ўзялі моркву.

2. Пры дапамозе разца па дрэве ці звычайнага нажа выразаем на гародніне ўзор.

3. Для нанясення фарбы выкарыстоўваем валік ці губку. Фарбы выкарыстоўваем спецыяльныя, акрылавыя для тканіны.

4. Раскладваем тканіну і пачынаем друкаваць. Запаўняем усю тканіну найперш адным штампам, пры неабходнасці бяром другі і запаўняем прамежкі (у нашым выпадку гэта колы).

5. Даем тканіне прасохнуць, пасля чаго прасуем яе згодна з інструкцыяй да афарбоўкі.



## Парада:

*Калі вы хочаце зрабіць узор з роўнааддаленых элементаў (як у нашым выпадку), рэкамендуем выразаць з паперы ці кардону “крок”: прыкладаючы яго да тканіны, можна лёгка нанесці элементы на аднолькавай адлегласці.*

# Завязваем хусткі

*Цёплае надвор'е – не прычына адмаўляцца ад прыгожых хустак і шалікаў! Незвычайна смела і эфектна яны глядзяцца на галаве, а спосабаў завязвання існуе мноства. Стыліст Лена Лосева прапаноўвае адзін з іх.*

## Пакрокавая інструкцыя:

Нам спатрэбіцца: шалік прамавугольнай формы, чым даўжэйшы, тым лепей.

1.Накладзіце шалік на галаву так, каб ён спераду поўнасцю закрываў лоб, а ззаду –патыліцу.

2. Канцы шаліка вазьміце ў рукі і пару разоў перакруціце, пасля чаго адвядзіце іх назад, за галаву. Заўвага: круціць канцы шаліка трэба ў адзін бок – "унутр", да сябе.

3. Перакрыжуйце канцы шаліка за галавой, знізу, – і выведзіце іх зноў наперад, на лоб.

4. Зноў перакруціце канцы, гэтым разам на ілбе. Дастаткова аднаго разу, але ў нашым выпадку мы зрабілі гэта двойчы.

5. У залежнасці ад даўжыні канцоў яны запраўляюцца пад хустку па баках альбо ззаду ў ніжняй частцы, ці зноў зводзяцца ззаду, дзе перакрыжоўваюцца і хаваюцца па баках.




*Ілюстрацыі: Аліна Косік*

**Ідэя і арганізацыя :** ALOVAK

**Фота:** Андрэй Дубінін

**Дэкор:** Юлія Трафіменка

**Стыліст:** Лена Лосева

**Мадэлі:** Настасся Пяцюшкіна
Дыяна Шыманоўская

**Макіяж:** Еўгенія Качала

**Месца здымкі:** Месца здымкі: Купалаўскі мемарыяльны запаведнік Вязынка, філіял дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы

……………………………………………………………

**Хусткі, паланціны ручной работы:**

**Ткацтва:** Heartiness

**Шаўкаграфія:** Jamido monofaktura

**Экапрынт:** Poetka by Kabanova

……………………………………………………………

**Адзенне:**

**На Дыяне:** сукенка, хустка Poetka by Kabanova

**На Настассі:** сукенка Jamido monofaktura, кардыган, хустка Heartiness

Вы любіце паштоўкі? Можа вы іх калекцыянуеце, адпраўляеце без нагоды ці дасылаеце сабе і сябрам паштоўкі з падарожжаў? А можа вы заўзяты посткросер? Каманда нашага часопіса вельмі прачула ставіцца да друкаваных паштовак, да паштовых адзнак, штампаў і марак. У гэтым нумары мы знаёмім вас з чарговай аўтарскай паштоўкай by ALOVAK. Спадзяемся, гэтая паштоўка падорыць вам усмешку і цяпло нашых сэрцаў.

*Вы хочаце атрымаць паштоўку*
*"Творчы беспарадак"*
*у сваю паштовую скрыню?*

Падпісвайцеся на нашы старонкі ў Facebook і Вконтакте,
дзе вы даведаецеся падрабязней пра тое,
як вельмі проста і лёгка яна можа ў вас апынуцца.



# Вялікае плаванне маленькай рыбкі




Ілюстрацыя Міці Післяка на ўваходных дзвярах у майстэрню Sardina Baby

*Беларускі брэнд дызайнерскага адзення для дзяцей Sardina Baby створаны Янай БІТУС і Таццянай ЛЕЎХНЕНКА ў 2011 годзе. Таленавітыя дзяўчаты, знаёмыя з дзяцінства, пачыналі свой праект з фармату захаплення. Яны распавялі ALOVAK, як у іх атрымалася стварыць з гэтага любімую справу.*

Тэкст: Кацярына Бута
Фота: Марыя Сонгаль





## Пра праект

**Таццяна:** У нас з Янай амаль адначасова з'явіліся дзеці, мы сталі думаць, як іх апранаць, хацелася рабіць гэта цікава, незвычайна. Жаданні не адпавядалі наяўнасці, таму мы пачалі прыдумваць самі: сядзелі дапазна, марылі, першыя ідэі пачалі запісваць у нататнік. Знайшлі швачку, арганізавалі першую фотасесію, і пайшло-паехала... Праз пяць гадоў усё разраслося да калектыву ў 10 чалавек, з маленькай майстэрні мы выраслі ва ўтульную вытворчасць.

Назва прыдумалася амаль адразу, усё завярцелася вакол рыбкі, таму што першая мадэль штанішак была са здымнай рыбкай у кішэні на кнопачцы, унутры яе было зерне для развіцця дробнай маторыкі. І "сардзінка" паплыла.

**Яна:** Напэўна, падобны сцэнар здольныя паўтарыць большасць людзей, што займаюцца праектамі для дзяцей. У дэкрэце вельмі хочацца ўпрыгожыць жыццё дзіцёнка, а часу для гэтага так шмат, што ў сваіх пачынаннях можна дасягнуць амаль поўнай дасканаласці. Потым узнікае цікаўнасць у асяродку, і ў адзін цудоўны момант разумееш, што любімы занятак можа стаць вялікай ці маленькай, але справай твайго жыцця.

## Пра творчы шлях

**Таццяна:** Я вучылася ў мастацкай школе, марай было паступіць у Беларускую акадэмію мастацтваў – туды я і трапіла, выбрала спачатку тэкстыльны кірунак. У працэсе вучобы зразумела, што я па-іншаму ўяўляла сабе, чым буду займацца, і перайшла на мадэліраванне адзення. Так атрымалася, што я працую па спецыяльнасці, цалкам і поўнасцю прысвяціла сябе Sardina Baby, калі выйшла з дэкрэта. Гэта вельмі радуе.

**Яна:** Я архітэктар, вучылася ў сучасным Беларускім нацыянальным тэхнічным

універсітэце, пасля трэцяга курса мы з будучым на той момант мужам з’ехалі ў Вялікабрытанію і засталіся тут надоўга. Я прапрацавала архітэктарам у Лондане 10 гадоў да выхаду ў першы дэкрэтны адпачынак, які цягнецца ў Брытаніі ўсяго адзін год. Пасля яго зразумела, што сваю папярэднюю працу з маленькім дзіцём я спалучаць не хачу. “Сардзіна” да гэтага ўжо выразна сфарміравалася, выбар быў зроблены!

## Пра працэс

**Таццяна:** У творчым працэсе ўдзельнічаюць усе члены нашай каманды. Нядаўна наш калектыў папоўніўся яшчэ адным рухаючым звяном – Танюшай. Яна ўсяляк спрабуе арганізаваць нашыя творчыя натуры, сваёй энергіяй і працалюбствам штурхае ўсю каманду на сапраўдныя подзвігі.

На сваіх дзетках мы выпрабоўваем мадэлі, якія шыем, швачкі, са свайго боку, падказваюць рацыянальныя ідэі. Для новай калекцыі мы абіраем ідэю і пачынаем яе развіваць. Нас натхняюць маленькія дзеці, яркія колеры, раслінны і прыродны свет вакол нас, цікавыя дамы, вялікія мастакі, прыгожая музыка... Вельмі любім дзіцячыя малюнкі – яны выдатна глядзяцца на прынтах.

На пачатку шляху вельмі хацелася выкарыстоўваць толькі беларускія матэрыялы, але вельмі хутка ілюзія пра ідэальны экалагічны падыход развеялася. Мы задаволены беларускім ільном і шэрсцю, наша бавоўна выдатна падыходзіць для падкладкі, аздаблення. Але ўсё больш мы сталі звяртацца да замежных вытворцаў, бо суадносінамі кошт-якасць грэбаваць не выпадае.

**Яна:** Нягледзячы на тое, што ў працэсе я ўдзельнічаю на адлегласці, штодзённая праца ў мяне наладжана, мы ўвесь час на сувязі, дапамагаюць сучасныя сродкі электронных зносінаў. Я вяду гутаркі з кіраўніцтвам, з закройным цэхам і са швачкамі непасрэдна, так што пакутую толькі ад пропуску вельмі вясёлых кофепаўзаў.

У Эдынбургу да нас далучылася яшчэ адна дызайнер з рускімі каранямі, яна выкладае мадэліраванне ў мясцовым каледжы мастацтваў. Так што ў мяне тут таксама ўтварылася невялікая брыгада, што ўключае і абодвух маіх сыноў, якія прымаюць усе меншы ўдзел у прымерках і ўсё большы – у творчым працэсе. Яны выдаюць цэлыя калекцыі з падрабязным апісаннем дэталяў і колеравых рашэнняў.

## Пра планаванне часу

**Таццяна:** Шчыра кажучы, я пакуль толькі вучуся знаходзіць баланс паміж працай і сям’ёй, але імкнуся правільна расстаўляць прыярытэты для кожнага канкрэтнага дня і арганізоўваць свой час так, каб выхадныя цалкам прысвяціць сям’і і дому. І, канешне, рабіць усё з задавальненнем.

**Яна:** Ёсць такая натхняльная кніга “Рэжым генія” Мэйсана Кары, у якой сабраныя расклады дня знакамітых таленавітых людзей. Перачытваю яе і захапляюся недасяжнасцю для мяне такой арганізацыі. Для спалучэння працы з сям’ёй я выпрацавала два правілы, якія мяне выратоўваюць. Першае: не працаваць, калі дзеці са мной, паверце, спакуса вельмі вялікая. Другое: калі праца тэрміновая, то хатнія справы могуць пачакаць.

## Пра майстэрню

**Таццяна:** Калі з’явілася патрэба ў пашырэнні – з’явілася вялікая майстэрня. І мы пачалі бегчы за гэтым “імклівым цягніком” і перастройвацца на новы этап працы. Увесь працэс вырабу “ад” і “да” адбываецца тут. У адным памяшканні майстэрні працуе канструктар-распрацоўшчык, тут вырабляюцца лекалы, шыюцца эксперыментальныя ўзоры. У іншым памяшканні – швейны цэх, куды мы адпраўляем абраныя мадэлі. У асобным памяшканні займаюцца вільготна-цеплавой апрацоўкай, там жа вырабы праходзяць канчатковы кантроль якасці.
Нам ёсць яшчэ над чым працаваць, але ўжо зроблена нямала. У бліжніх планах зрабіць рамонт і абсталяваць утульнае месца для сустрэч з кліентамі.

**Яна:** Жывучы ў Эдынбургу, больш за ўсё я сумую па нашым калектыве. Атмасфера ў майстэрні надзвычайная, у нас цудоўны калектыў, усе вераць у наш праект і хочуць, каб мы раслі, гэта вельмі акрыляе.

## Пра прасоўванне

**Таццяна:** Нам вельмі падабаецца фармат маркетаў, якія сталі досыць часта праходзіць у Мінску. Гэта неверагодна цікавы вопыт, радасна глядзець, што на Беларусі з’яўляецца шмат новых ініцыятыўных і таленавітых людзей. Імкнемся прымаць удзел у цікавых паказах, супольных фотасесіях з іншымі дызайнерамі.

Нягледзячы на тое, што мы арыентуемся ў першую чаргу на беларускі і расійскі рынак, мы адкрыты ўсяму свету. На сённяшні дзень мы можам пахваліцца працай з Паўднёвай Карэяй і Вялікабрытаніяй, мы таксама ўдзельнічалі ў міжнароднай выста-



ве дзіцячага адзення Bubble London. Карысна знаёміцца з людзьмі з іншых краін, даведвацца пра іх погляды на дзіцячую моду.

**Яна:** Больш за ўсё кліентаў да нас прыходзяць па рэкамендацыях. “Сарафаннае радыё” працуе вельмі добра, і мы робім усё магчымае, каб замацоўваць гэтую “хвалю”. Усё мусіць быць бездакорна – ад унутраных швоў да ліставання з кліентам. Гэта вялікая праца, якая адымае шмат рэсурсаў, але прыносіць вялікае задавальненне. Можа падацца неверагодным, але мы дагэтуль не запускалі аніводнай рэкламнай кампаніі, але, відаць, ужо дараслі да гэтага.

## Пра развіццё і планы

**Таццяна:** Праект пачынаўся, калі дзеці былі маленькімі. Мы расцем разам з нашай “сардзінай”, погляды на адзенне ў нас мяняюцца паралельна з ростам дзяцей. Калі яны стануць падлеткамі, магчыма, і гэтую нішу паспрабуем засвоіць. Не выключана, што не за гарамі і Sardina для дарослых: ужо зараз мы запускаем серыю адзення ў стылі family look для мамы і дачкі.

Двойчы ў год мы выпускаем новую калекцыю адзення. Зараз мы працуем над калекцыяй “вясна-лета 2017”, каб летам яе адфатаграфаваць і ўвосень ужо працаваць з новым матэрыялам. Калекцыя ствараецца за год да свайго выхаду, каб мець магчымасць падабраць тканіну, а магазіны маглі сфарміраваць свае замовы загадзя. Варта адзначыць, што да гэтага мы таксама прыйшлі не адразу, але імкнемся зараз прытрымлівацца такога плану.

Мы адкрытыя для супрацоўніцтва, прапаноў і ідэй. Менавіта ад гэтага больш за ўсё загараюцца вочы, гэта самае прыемнае ў нашай працы. Прыкладаў супрацоўніцтва з таленавітымі людзьмі вельмі шмат: нядаўна майстэрня Pernik.by вырабіла аўтарскія пернікі з нашым лагатыпам, якія мы раздавалі нашым пакупнікам на маркеце. А цацкі ручной працы таленавітай дзяўчыны-дызайнера (Taka Zaka Toys) стануць у бліжэйшым часе дадаткам да нашага аддзення.

**Яна:** Развіццё і планы нашы досыць нечакана сутыкнуліся з фінансавым крызісам... Нягледзячы на тое, што продаж увесь час расце і абароты павялічваюцца, мы прыйшлі да таго, што вельмі сур’ёзна працуем над памяншэннем кошту вырабаў, не губляючы ў якасці. Вельмі хочацца, каб наша адзенне было дасягальным вялікаму колу людзей на Беларусі. Нашы кошты і зараз на ўзроўні іншых вытворцаў, і мы марым зрабіць пераварот на рынку, каб якаснае і цікавае адзенне каштавала нядорага.

Мы радыя, што ўсё, што мы планавалі год таму, цудоўным чынам зараз увасабляецца. Наступны этап – адкрываць свае магазіны з гульнёвымі зонамі і прыцягненнем да супрацоўніцтва нашых сяброў!

Карысная інфармацыя:

Яна Бітус, Таццяна Леўхненка,
стваральніцы брэнду Sardina Baby

**www.sardinababy.com**
**www.sardinaba.by**

# #КАРАДНЯ

У мінулым нумары часопіса мы аб'явілі пра запуск флэшмоба ў нашым акаўнце ў Instagram на тэму "кара дня". На працягу апошніх некалькіх месяцаў мы з нашымі падпісчыкамі фатаграфавалі кару і выкладвалі ў сетку фатаграфіі з хэштэгам #корадняALOVAK. Падборка самых цікавых у гэтым нумары. Дзякуем усім удзельнікам!



FOLLOW ALOVAKmag ON INSTAGRAM
@alovakmag














1 – @kira_heart; 2 – @khrabrovskaya_irina; 3 – @leanovich; 4 – @skydr; 5 – @malicadoll; 6 – @koyukova_lyudmila;

# АБ’ЯВА!

Тэма наступнага флэш-мобу – **“мох дня”**. Фатаграфуйце мох, малюйце яго, выкарыстоўвайце ў творчасці – фантазіруйце!

Выкладвайце фатаграфіі ў сваім профілі з хэштэгам **#мохдняALOVAK**. Лепшыя здымкі з’явяцца ў падборцы ALOVAK #7.


7.


8.


9.


10.


11.


12.


13.


14.


15.

7 – @julia_and_handmade; 8 – @tkhlopkova; 9 – @yuyu_by; 10 – @natalya.raev; 11 – @ljudmilalala; 12 – @yasnaya_jane; 13 – @mushi_mishi; 14 – @xenia_snicket; 15 – @teklimo.



# Карысны смузі

*Прапаноўваем падрыхтаваць сябе да цяпла і летніх хуткасцяў жыцця. Зялёныя кактэйлі вельмі карысныя, лёгка засвойваюцца арганізмам і, у адрозненне ад сокаў, утрымліваюць клятчатку. Дастаткова ўсяго дзвюх шклянак смузі ў дзень – і арганізм атрымае неабходную колькасць вітамінаў. Такія кактэйлі не адымаюць шмат часу ані на прыгатаванне, ані на мыццё посуду. Больш карысна спажываць смузі адразу пасля прыгатавання.*

# Рэцэпт смузі:

- *кубачак ахалоджанай рамонкавай гарбаты;*
- *кубачак замарожаных ягад;*
- *пучок мяты*;*
- *невялікая морква;*
- *банан;*
- *карыца і мёд на смак.*



У гэтым рэцэпце мята і карыца стымулююць і падтрымліваюць здаровае страванне і апетыт. Акрамя таго, водар у іх проста неверагодны! Мята дапамагае арганізму ў барацьбе з інфекцыямі і супакойвае нервы. Яна добра спалучаецца з ягадамі, напрыклад, з клубніцамі, ажынай, чарніцай, малінай.

Рамонак здымае цягліцавае напружванне і валодае супрацьзапаленчым дзеяннем. Калі патрабуецца дапамога ў барацьбе з раздражняльнасцю, напружаннем ці бессанню, лепей за рамонак не знайсці!

Не стрымлівайце сябе ў светлым парыве эксперыментаваць са складнікамі вашага кактэйля, памыліцца ў яго прыгатаванні вельмі складана!

**Варыянты замены зеляніны: базілік, чабор, арэгана, размарын, шалфей.*



Тэкст, рэцэпт: Ірына Агейчык inarilaine.tumblr.com
Ілюстрацыі: Дар'я Уласава

# *Свет літараў:*

## заняткі па тыпаграфіцы і каліграфіі



*Калі вы апошні раз сядалі за стол, бралі асадку, на секунду заміралі, спрабуючы злавіць натхненне, і... пачыналі пісаць ліст? Няхай не ліст кахання, а проста добраму сябру? Тэхналогіі XXI ст. ненавязліва, але імкліва выцясняюць рукапісныя лісты з нашага жыцця. Здаецца, хутка чалавек забудзе, як пісаць уласнае імя... Магчыма, я перабольшваю, але наш герой, дызайнер шрыфтоў і лагатыпаў Аляксей КОВАЛЬ упэўнены: уменнем пісаць прыгожа мусіць валодаць кожны адукаваны чалавек.*

Тэкст: Марыя Кліменцьева
Фота: Марыя Сонгаль

Аляксей называе сябе камунікатарам паміж светам літараў і людзьмі; бо, апроч працы дызайнерам, ён з'яўляецца заснавальнікам школы тыпаграфіі і куратарам школы каліграфіі, адзінай на Беларусі. Дызайнер верыць, што хутка гэтае мастацтва верне сабе годнае месца, і можа быць, зноў стане рамяством.

*– З чаго пачыналася вашая зацікаўленасць шрыфтамі?*

З дзяцінства ведаў, што існуе шмат розных шрыфтоў, трафарэтаў для іх напісання. У школе вельмі цікавіўся аўтамабільным дызайнам, нават марыў прафесійна займацца ім, але для гэтага трэба было з'язджаць у іншую краіну, да чаго я не быў гатовы. Так я адвучыўся на эканаміста, адпрацаваў па размеркаванні два гады, а потым здарылася пстрычка: я ўбачыў банер студыі Арцемія Лебедзева. Зайшоў да іх на сайт, і мне на вочы трапіўся артыкул Юрыя Гардона пра шрыфты, знакі, дызайн. Гэта мяне вельмі зачапіла, так усё і вырашылася.

*– А як вы прыйшлі ў каліграфію?*

Калі я толькі пачынаў займацца шрыфтамі, ужо ведаў, што без каліграфіі аніяк. Аднойчы проста набыў набор пёраў і паспрабаваў імі пісаць. Атрымалася не вельмі, бо тады маіх ведаў пра гэтае мастацтва не ставала, я не разумеў, як лепш за ўсё выкарыстоўваць



кожнае пяро. Але жаданне было. Я пазнаёміўся з выдатнымі майстрамі, прайшоў курс у Санкт-Пецярбургу ў Пятра Чабіцькі, слухаў лекцыі нашага вядомага каліграфа Паўла Семчанкі, шмат гутарыў з ім. Сябры мне часта дарылі каліграфічныя інструменты. Так праз восем гадоў я стаў прафесійна займацца каліграфіяй.

*– Чаму вырашылі выкладаць? Як прыйшлі да арганізацыі курсаў і адкрыцця школы?*

Выкладаць мяне падштурхнулі сябры і калегі. У 2012 годзе былі арганізаваныя першыя групы курсаў па тыпаграфіцы, а школа каліграфіі запрацавала ў верасні 2015 года. На сённяшні дзень у нашых школах ладзяцца заняткі, трэнінгі і майстар-класы для дарослых, а ў школе каліграфіі яшчэ і для дзяцей. Аднойчы сябры запрасілі мяне правесці каліграфічны майстар-клас на фестывалі “Горад кнігі”. Калі я прыйшоў туды, дзеці з мінулых заняткаў яшчэ не разышліся, і я правёў для іх майстар-клас працягласцю ў паўгадзіны. Пасля гэтага зразумеў: хачу займацца з дзецьмі. Неўзабаве мае сябры з піцерскай школы каліграфіі прапанавалі прыехаць да іх на летні інтэнсіў для выкладчыкаў і бацькоў, якія жадаюць займацца каліграфіяй з дзецьмі. Гэтыя заняткі, а таксама гутарка з Пятром Чабіцькам канчаткова падштурхнулі мяне да адкрыцця студыі.

*– Дзеля чаго дзецям варта займацца каліграфіяй?*

Галоўнай мэтай адкрыцця курсаў было паменшыць колькасць слёз, што праліваюцца над пропісамі. У школе часта не тлумачаць, як пісаць правільна, не раскрываюць сакрэт прыгожай літары. А ён у тым, каб бачыць баланс формаў. Напрыклад, калі ў верхнім элеменце літары “д” белай прасторы будзе больш, чым у ніжнім, то яна атрымліваецца непрыгожай. А калі пароўну – будзе добра. Дзеці ўсё выдатна адчуваюць і разумеюць, галоўнае правільна патлумачыць. тады ў іх з’яўляецца матывацыя займацца, а гэта вельмі істотна. Напрыклад, сядзець прама трэба для таго, каб перанесці нагрузку на

ГЭТА ЦІКАВА

**Тыпаграфіка** – мастацтва афармлення друкаванага тэксту. Тыпаграфічны працэс уключае выбар рэгістру алфавіта, прабелаў паміж літарамі, словамі і радкамі, узаемнага размеркавання тэксту і ілюстрацый і іншых наладак.

**Каліграфія** (ад грэч. “прыгожы почырк”) – галіна выяўленчага мастацтва, мастацтва прыгожага напісання.

левую руку, тады правая рука будзе пісаць свабодна, нібыда слізгаць, і напісанае атрымаецца прыгожым.

*– Чым прываблівае каліграфія дарослых? Хто звычайна прыходзіць на заняткі?*

Прыходзяць тыя, у каго доўгі час была цікаўнасць да каліграфіі, але яны не маглі знайсці патрэбныя курсы, бо прапаноў па сутнасці не было. Прыходзяць фларысты, дызайнеры, арганізатары вяселляў, фатографы, каб навучыцца новым шрыфтам. Нехта прыходзіць напярэдадні вяселля, каб навучыцца падпісваць запрашальнікі. Прычым многія з іх застаюцца потым не на адзін курс. Цікава тое, што ў нашай студыі ўсе знаёмяцца і потым пачынаюць рабіць замовы адно аднаму. У нас атрымліваецца такі “домік сяброў”.

*– Якая сітуацыя з каліграфіяй на Беларусі? Як гэтае рамяство будзе далей развівацца?*

На Беларусі сітуацыя цудоўная. У нас ёсць выдатныя майстры, такія як Павал Семчанка, Юрый Тарэеў. У нас ладзяцца разнастайныя майстар-класы, выставы; гэтаму рамяству навучаюць у Акадэміі мастацтваў. Канешне, нельга не адзначыць, што Кіеў багаты на каліграфічныя падзеі, а Масква і Санкт-Пецярбург – два буйныя цэнтры са сваімі добрымі школамі. Але і ў нас вялікі патэнцыял. На дадзены момант праблема ў тым, што не да канца сфармаваўся попыт на каліграфічную працу. І гэта адна з мэтаў маёй школы: выпусціць як мінімум знаўцаў дадзенага мастацтва, тых, хто разбіраецца,

разумее. Каліграфія – гэта амаль памерлае рамяство, якое стала мастацтвам. Але ад гэтага яго каштоўнасць яшчэ большая. Я веру, што хутка людзі пачнуць пра гэта задумвацца, яны ўжо задумваюцца. У нас абавязкова з’явяцца канкурэнты. Сфармуецца попыт і на матэрыялы. Зараз многія каліграфічныя інструменты магазіны не замаўляюць, бо няма попыту, а тыя, што прывозяць, раскупляцца ў адзін момант. Але калі больш людзей зацікавяцца мастацтвам каліграфіі, усё наладзіцца.

*– Як каліграфія ў цэлым уплывае на чалавека?*

Каліграфія – фантастычная рэч. Гэта не толькі почырк ці правільная пастава, але і ёга, і медытацыя. Мы пішам павольна і ўдумліва, раствараемся ў тым, што робім. У выніку пачынаем па-іншаму ставіцца да дробязяў, з’яўляецца патрабавальнасць да сябе, спакой.

*– У школах адной са скандынаўскіх краін урокі пісьма вялікімі літарамі плануюць замяніць заняткамі па наборы тэксту на клавіятуры. Як вы да гэтага ставіцеся?*

Я лічу, што гэта выдатная ідэя. Сёння дзесяціпальцавы метад набору тэксту сапраўды істотнае ўменне. Але гэта зусім не азначае, што дзяцей не варта вучыць чытанню і правапісу. Пісьмо застаецца жыццёва неабходным уменнем. Няхай яго будзе меней у нашым жыцці, але яно будзе лепей. Сваім вучням я кажу: “Вы спакойна зможаце пражыць без умення пісаць прыгожа. Але калі вы хочаце пакінуць пасля сябе след, гэты навык вам неабходны”. Задумайцеся: мы часта не захоўваем камп’ютарныя файлы, старэйшыя за пяць-дзесяць гадоў, а вось школьныя дзённікі шмат у каго дагэтуль ляжаць. Гэта да таго, што рукапіс захоўваецца дольш. Больш за тое, многія жыццёвыя сітуацыі абавязваюць інтэлегентнага чалавека прыгожа напісаць што-небудзь, будзь тое словы на паштоўцы ці кнізе ў падарунак альбо ўласны подпіс. Такія дэталі складаюць уяўленне пра чалавека.

*– Якія ў вас планы на бліжні час?*

У верасні мы запускаем курсы сямейнай каліграфіі. Гэта вельмі зручны фармат, калі бацькі і дзеці займаюцца разам. Яшчэ мы з жонкай часта марым пра ідэальны майстар-клас: месца за горадам на прыродзе, водар кветак, фонавая музыка...

*– Што вас натхняе? Што прыдае сілу, энергію?*

Мяне натхняе сям’я. Менавіта выхоўваючы дзяцей, мы сталі задумвацца пра істотнасць умення пісаць правільна і прыгожа, пра тое, што ўплывае на развіццё чалавека, яго мысленне. Таксама мяне натхняюць сябры, іх творчасць. А яшчэ – мае вучні, бо працуючы з імі, я магу па-новаму зірнуць на тое, што раблю сам.

КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ:
Аляксей Коваль,
дызайнер шрыфтоў і лагатыпаў, заснавальнік і выкладчык школы “Тыпаграфіка”, куратар школы каліграфіі

koval.by
typography.by
calligraphy.by

# *Майстар-клас па летэрынгу*

## ад Аляксея Коваля

**Летэрынг** (ад англ. letter – літара) – літары і знакі, створаныя (намаляваныя) адзінкава, якія ў спалучэнні адно з адным уяўляюць сабой гарманічную кампазіцыю.

Тэкст: Кацярына Буто, Ірына Бельская
Фота: Кацярына Буто

## *Інструменты:*

• папера;

• ласцік;

• простыя алоўкі;

• маркеры рознай таўшчыні;

• карэктар*;

• брашпэн (BrushPen)*;

• пёравая асадка Pilot Parallel Pen*.

* – пры наяўнасці.









1. Адно з заданняў па шрыфтавай кампазіцыі ў студэнтаў Аляксея – аформіць у тэхніцы летэрынгу музычную цытату. Гэтым мы і заняліся, вывучыўшы ўсе этапы працы ў гэтай тэхніцы па прыкладзе выразу з песні Земфіры “Небо Лондона”.

Для працы нам падыдзе папера са звычайнага блоку для чарчэння, але можна гэта рабіць і ў скетчбуку.

**Абіраем фармат** – у нас вертыкальны, з палямі; алоўкам робім прыблізны накід кампазіцыі. У нашай цытаце самым вялікім кеглем зробім слова “небо”, пры гэтым размяркуем яго на дальні план.

Парада ад Аляксея Коваля:

*Прадумваючы кампазіцыю, памятайце, што ў любой добрай працы ёсць тры велічыні: нешта вялікае, нешта маленькае і нешта сярэдняе.*

*Пра шрыфт варта разумець: калі ёсць нешта буйное, то яно будзе імкнуцца да таго, каб яго прачыталі першым, так створаны чалавек. Калі будзе дробнае, то трэба быць гатовымі да таго, што здалёк будзе чытацца толькі буйное і сярэдняе.*

**Пачынаем удакладняць** шрыфты ў эскізе. Для першага надпісу “мне” возьмем два змацаваныя скотчам алоўкі. Гэты прыём дапаможа вам зразумець прынцып “працы” шырокаканечнага пяра і зымітаваць яго напісанне. Пасля гэтага звычайным алоўкам дамалёўваем лініі.

2. Наступны надпіс робім сваім звычайным почыркам, толькі задужа разрэджаным, з чаргаваннем літараў рознага памеру – вялікая, маленькая, вялікая і г.д. Скарыстаемся лінейкай, каб размеркаваць літары на адной лініі і на аднолькавай адлегласці адна ад адной.

Каб прымусіць узаемадзейнічаць паміж сабой напісаныя два словы, **аб’яднаем іх** у агульную форму “воблака”.







3. Літары ў слове "небо" шчыльна пераплятаем паміж сабой. Верхні вынас літары "б" звязваем з першымі двума словамі – ён будзе праходзіць скрозь "воблака" зверху. Прымяняючы разнастайныя прыёмы, не забываемся пра чытальнасць літараў.
Вельмі схематычна пазначаем слова "Лондона", падумаем пра яго пазней.

Парада ад Аляксея Коваля:
*Не бойцеся працаваць алоўкам, таму што потым пяройдзем да маркераў і ўсё пачысцім ласцікам. Галоўнае, каб папера дазваляла гэта зрабіць, а маркеры былі ўстойлівымі, напрыклад, пермаментнымі, каб не размазаць іх пры сціранні алоўкавага накіду.*

4. **Пераходзім да маркераў.** Надпіс "мне" абводзім па контуры. Ласцікам сціраем аловак і прыдумваем запаўненне: унутры літараў заштрыхоўваем, а каб надаць літарам паветранасці робім падводку-цень.
Для слова "приснилось" возьмем брашпэн (асадку з пэндзлікам на канцы) альбо любы іншы прыдатны інструмент. Працаваць брашпэнам трэба па прынцыпе: уверх без націскання, уніз з націсканнем.
Слова "небо" абводзім тонкім чорным контурам, затым запаўняем колерам. Літары "н" і "б" – блакітным колерам, "е" і "о" – чорным.







**5.** Для напісання слова “Лондона” выкарыстоўваем пёравую асадку з шырокаканечным пяром Pilot Parallel Pen. Яна добрая тым, што можна маляваць і рабром – атрымліваецца тонкая лінія. Але можна ўзяць любыя маркеры. Калі мы робім надпіс па дыяганалі, сочым, каб вертыкальныя элементы ў літараў былі паралельнымі краю аркуша. Градыент атрымаўся праз тое, што ў асадцы заканчваўся чыровны атрамант і яна была запраўленая фіялетавым.

**6.** Дадаём лініі зверху і знізу слова “Лондона” – у летэрынгу істотна, каб белая і чорная (каляровыя) вобласці былі раўнамерна размеркаваны паміж сабой. Да саміх літараў дадаём дэталі для аб’ёму.
Дапрацоўваем кампазіцыю. Вяртаемся да слова “небо”. Вырашаем дадаць літарам аб’ём, каб яны не губляліся на фоне, які мы робім блакітным маркерам па прынцыпе гравюрных прац – атрымліваецца падобна да дажджу. Каб прыбраць лішняе, выкарыстоўваем карэктар, ім жа дадаём блікі.

Парада ад Аляксея Коваля:
*Амаль любыя агрэхі ў працы можна выправіць. У летэрынгу можна бясконца дадаваць дэталі, тут вельмі цяжка перабольшыць з імі і сапсаваць работу.*

# РУСАЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ

Тэкст: Наста Глушко
Ілюстрацыі: Ірына Бельская




** У нашым уяўленні русалкі з рыбінымі хвастамі, але беларускія не такія...*

*Русалкі – міфічныя істоты, вядомыя амаль усім народам свету. На беларускіх землях русалак таксама ведалі і ўшаноўвалі, прысвячаючы спецыяльныя абрады падчас адмысловага свята. Пра тое, як выглядалі русалкі ва ўяўленнях нашых продкаў-беларусаў, і пра абрады, звязаныя з русалкамі, – чытайце ў матэрыяле Насты ГЛУШКО.*



*Правяду русалачку я да бору*
*А сама вярнусь я да дому*
*Каб наша русалачка не хадзіла*
*Каб наша жыцейка жэ не ламіла…*

Згадваючы русалак нам адразу ўяўляюцца марскія дзевы з рыбінымі хвастамі і салодкімі спеўнымі галасамі, што заманьваюць маракоў на скалы. Ва ўяўленні нашага народа, русалкі не менш шкодныя, але зусім не падобныя да марскіх. Апісваюць іх па-рознаму.

Дзесьці верылі, што гэта дзяўчаты з даўгімі распушчанымі валасамі, русымі ці зеленаватымі як асака, прыгожыя, жывуць у рэках і азёрах. Вочы ў іх блакітныя і нерухомыя, шкляныя, як у нябожчыкаў. На беразе могуць знаходзіцца зусім не доўга, пакуль валасы высахнуць. У руках часам трымаюць таўкач ці пранік. Толькі на русальным тыдні гуляюць яны свабодна па жыце, па бярозавых гаях і лугах, любяць гушкацца на бярозавым голлі, сплятаючы галінкі накшталт арэляў. Такія часта завабліваюць сваёй прыгажосцю людзей, асабліва маладых мужчын, і топяць альбо заказытваюць да смерці.

Паходзяць русалкі ад тапельцаў-дзяцей, ад немаўлят, якія нарадзіліся мёртвымі, ці дзяўчат, якія ўтапіліся ад няшчаснага кахання, ад душаў неахрышчаных дзяцей. Звычайна русалкі не апранутыя, таму выпрошваюць у дзяўчат кашулю ці намётку ў маладзіцы. Калі пашкадаваць русалку і падараваць ёй адзенне, яна з удзячнасцю дакранецца да чалавека і яму будзе ва ўсім шчасціць. Калі злавіць русалку і прывесці да хаты – яна будзе служыць гаспадару цэлы год, не размаўляючы і жывячыся толькі парай, што ўздымаецца над гаршкамі з ежай. Але калі год мінае, русалка пляскае ў ладкі і спявае: “Гу-та-та, гу-ля-лё!” і збягае ў лес. Русалка не можа дакрануцца да жалеза і таму баіцца жалезных булавак ці шпілек. Калі мець пры сабе такую – ніякія русалкі не страшныя, ад булавак яны з крыкам разбягаюцца і знікаюць.

У другім варыянце русалкі – гэта жанчыны, напаўапранутыя, з жалезнымі грудзямі, страшныя, сустрэць іх можна звычайна каля жыта ці ў гароху. Не маючы сваіх дзяцей, русалка хапае дзіця, якое забегла ў жыта, і тады ўжо імкнецца накарміць яго сваім малаком, заабдымае і заказыча. Яшчэ і зараз можна пачуць як бабулі пужаюць непаслухмяных унукаў: “Не бегай у жыта, цябе русалка схопіць!”

Часам нават і карыснымі русалкі для людзей бываюць. На Гомельшчыне вераць, што русалкі сцерагуць жыта, каб ніхто не рушыў яго, не абтрасаў пылок з каласкоў, калі яно красуе. “Гэта Бог іх пасылае пільнаваць, штоб ніхто не тоўкся да не трусіў каласкоў, бо не нальюцца...”. Такіх русалак завуць жытніцамі, яны вядуцца на полі ў добрага гаспадара, даглядаюць яго жыта. Перад жнівом пакідалі ім на полі пачастункі і стужкі рознакаляровыя, тады яны не шкодзяць, а жнеі менш стамляюцца. Жытніцы берагуць

поле і ад ведзьміных заломаў, і ад граду.
Палешукі мяркуюць, што калі пачуеш сваё імя ў лесе – нельга адгукацца. Гэта русалка калышацца на дрэве і наўмысна перабірае мужчынскія імёны, каб каго завабіць. Але калі не адгукаецца чалавек, русалка не мае над ім улады.
Каля Сянна старыя людзі кажуць, што ў дзяцінстве часта бачылі русалак, а зараз яны зусім зніклі. Апісваюць іх як невялікіх істотаў, пакрытых сівай поўсцю, што можна сустрэць у полі ці ў лесе. Іх не вельмі баяліся.
Каб засцерагчыся ад русалкі можна намаляваць на зямлі кола (кола з крыжам) і стаць усярэдзіне. Русалка нізавошта не пераступіць рысу. Кажуць, што зніклі русалкі з нашай зямлі менавіта праз гэта, усю зямлю парамералі, а русалка не можа пераступіць праз мяжу...

*На гряной нядзелі, русалкі сядзелі,*
*рана, рана, русалкі сядзелі*
*Сядзелі русалкі на крівой бярёзе,*
*рана, рана, на крівой бярёзе…*

З-за таго, што русалкі былі такімі шкоднымі і небяспечнымі істотамі і прыносілі столькі бяды, у беларусаў існавалі спецыяльныя абрады, прызначаныя засцерагчыся ад іх чараў. Самы небяспечны перыяд іх “свавольстваў” прыходзіўся на Русальны тыдзень, які пачынаўся адразу пасля Тройцы (Сёмухі), на восьмым тыдні пасля Вялікадня. У гэты час стараліся не гарадзіць платоў, не пачынаць ніякай работы. Не віць вяровак, не прасці, не ткаць – каб не гнявіць русалак. Таксама асцерагаліся лезці ў ваду, баяліся паасобку хадзіць у лес, асабліва ў чацвер на Русальным тыдні.

Іншыя назвы Русальнага тыдня – Граны, Русалчын, Крывы

Ладзіліся адмысловыя абрады, дзяўчаты і жанчыны вешалі на дрэвы пражу, ніткі і рушнікі, на адзенне русалкам. Каб засцерагчыся ад шкодніц, якія любяць гойсаць па жыце, насілі з сабой палын, якога яны баяцца. Дзе русалкі ладзілі свае ігрышчы ці качаліся – там жыта вылягала. Дзяўчаты на “русальным” тыдні збіраліся штовечар разам, спявалі адмысловыя песні, плялі вянкі, якія потым неслі ў гай і пакідалі на галінках дрэваў, каб задобрыць русалак.

“Провады русалкі” ладзяць напрыканцы “русальнага тыдня”. Абавязкова, напярэдадні, пад вечар збіраліся ў полі ці лесе. Плялі вянкі, выбіралі “русалку” – звычайна самую смелую, баявую. Вянок для “русалкі” вілі з іншых кветак, значна большага памеру, чым сабе. “Русалка” распускала валасы, яе прыбіралі кветкамі, галінкамі дрэваў, вадзілі па ўсіх дварах, а пад вечар выправаджвалі з вёскі, з песнямі праводзілі да поля ці да лесу (у некаторых мясцовасцях на могілкі) і, не аглядваючыся, уцякалі ад яе. Русалчын вянок дзе-нідзе спальвалі, а бярозавыя галінкі з абраду неслі да сябе на агарод, яны абаранялі пасевы ад шкодных насякомых.

У некаторых мясцовасцях Беларусі русалку “топяць”. Робяць ляльку з сухога “маю” (галінкі бярозы, клёну, якімі ўпрыгожваюць хату на Тройцу). Перш носяць гэтую ляльку з песнямі па полі, а ўвечары нясуць да ракі і кідаюць у ваду. Пасля гэтага русалкі нібыта пераставалі шкодзіць людзям.

*Не звіняць больш гаі русалчынымі песнямі, і не пагражае больш ніхто заказытаць падарожных да смерці. Але. Калі ў лесе хтось не вядомы гукне вас па імені, ці рызыкнеце вы адгукнуцца?*



*Гэтым разам мы знаёмім вас з англійскім рамяствам, вядомым з пачатку XVII ст., што паходзіць з графства Сафолк. У тыя часы тканіна была дастаткова дарагой, таму практычныя англійскія жанчыны захоўвалі ўсе абрэзкі тканіны, што заставаліся пасля вырабаў вялікіх рэчаў. З гэтых кавалкаў яны прыдумалі выразаць колы, якія атрымалі назву "puffs" (у перакладзе з англ. – хмарка, пухоўка). Злучыўшы атрыманыя элементы паміж сабой радамі альбо па коле, можна было зрабіць абрус, посцілку ці дэкаратыўнае пано.*
*Адраджэнне папулярнасці гэтай тэхнікі прыйшлося на 30-я гады XX ст. Разам з брытанскімі эмігрантамі тэхніка прыжылася ў ЗША, атрымаўшы новую назву "ё-ё" – паводле імя філіпінскай цацкі, што была вельмі папулярнай у тыя часы.*

У 1920 годзе філіпінец Пэдра Флорэс прывёз ё-ё ў ЗША і адкрыў там фабрыку па яго вырабе. У 1928 годзе амерыканскі бізнэсмен Дональд Дукан убачыў на вуліцах Сан-Францыска Пэдра, які акурат вырабляў трукі з ё-ё.
Дункан так уразіўся, што адразу зрабіў Флорэсу прапанову, ад якой той не змог адмовіцца. Так патэнт на цацку быў набыты амерыканцам, і неўзабаве старажытная цацка стала мегапапулярнай па ўсім свеце.

Простая запамінальная назва цацкі хутка прыжылася і ў якасці замены для назвы брытанскай тэхнікі. Ё-ё стала папулярным таксама, як і пэчворк, і нават нейкі час лічылася адгалінаваннем пэчворку.

"Ё-ёшкі" – аб'ёмныя, простыя ў вырабе, мілыя кветачкі. Імі можна ўпрыгожваць адзенне, падушкі, коўдры, дыванкі, торбы і ўсё што заўгодна. А можна з кветачак рабіць паўнавартасныя брошы ці заколкі.

Як жа зрабіць кветачкі ё-ё? Лёгка і проста!

## Нам спатрэбяцца:

- тканіна,
- іголка,
- нажніцы,
- ніткі,
- гузікі і/ці пацеркі (не абавязкова).

**1.**

Аснова нашай кветкі – колы з тканіны. Намаляваць кола на тканіне можаце загадзя па выразаным шаблоне з кардону, ці проста абвядзіце кубачак, шклянку ці міску. Калі вы збіраецеся выразаць шмат колаў, то зручней зрабіць кардонныя колы-шаблоны.

**Заўвага.** Памятайце, што гатовая кветка ё-ё будзе ў 2 разы меншай за вашае выразанае кола.

**2.**

Прашываем кола па акружнасці швом "наперад іголку", падгінаючы абразны край.

**3.**

Зцягваем нітку. Завязваем вузельчык.

**4.**

Распраўляем кветку. Гатова!





## Парады:

- Адразу прадумайце памеры вашых кветак, матэрыял, тое, як яны будуць спалучацца паміж сабой (по колеры і памерах).
- Кветкі могуць быць выкананы як з аднатоннай тканіны, так і з узорыстай.
- У сярэдзіну кветкі можаце прышыць гузік ці пацеркі.
- Да кветак можна прышыць зялёныя лісткі.

Не выкідайце абрэзкі тканіны, з іх атрымліваюцца цудоўныя ё-ё кветкі, а з іх – сапраўдныя кветкавыя кампазіцыі і ўзоры.



*Абуджэнне прыроды натхняе на перамены і абнаўленні ў нашым жыцці. А каб новае ўсталявалася і прыжылося, неабходна мець удзячную глебу – чыстую, незагрувашчаную прастору.*

Напэўна, кожны хаця б аднойчы прыкрываўся паняццем “творчы беспарадак”, каб апраўдаць свой маленькі, створаны ў парыве натхнення, хаос. Але заўсёды надыходзіць момант усведамлення таго, што далей так працягвацца не можа і трэба вызваліць месца для новых творчых ідэй і планаў.
Рашэнне прынятае, з чаго пачаць? Раім скарыстацца старажытным правілам самурая: “Калі не ведаеш, што рабіць, проста зрабі крок наперад”. Вось якія “крокі” для пачатку зменаў у жыцці мы прапаноўваем. Не абавязкова выконваць усё паслядоўна па спісе. Бяром тыя, што падабаюцца, і робім столькі, колькі захочацца. За любую справу бяромся з добрым настроем: уключаем любімую музыку ці стары добры фільм і... пачынаем!

**Памятайце, што большасць “аб’ектаў навядзення парадку” можна падзяліць на чатыры пазіцыі:**



# Крок 1: Модны прысуд

Галоўная парада па навядзенні парадку ў шафе – быць шчырым з самім сабой, калі вырашаеш лёс кожнай рэчы. “Пакінуць” – пакідаем усё, што будзе насіцца і/ці ў далейшым трапіць у катэгорыю “Вінтаж”. Як вядома, мода цыклічная, і будзе шыкоўна дастаць з засекаў, напрыклад, ультрамодны доўгі плашч. У катэгорыю “Аддаць” трапляюць добрыя якасныя рэчы, якія насіць не будзем, не ляжыць душа і ўсё. Як варыянт: можна зладзіць дома модны кірмаш, паклікаць у госці сяброў і сябровак, весела прабавіць час і знайсці любімым рэчам новых гаспадароў! З нелюбімым і зношаным адзеннем развітваемся без роздумаў. Самая цікавая частка рэчаў – тыя, якім пашчасціла трапіць у катэгорыю “Гатова для перапрацоўкі”.

## Ёсць ідэя!

• Джынсавыя і скураныя курткі

З джынсавай курткі заўсёды можна зрабіць камізэльку. Для скураной курткі ёсць больш цікавы варыянт. Пры дапамозе спецыяльных фарбаў для скуры і трафарэтаў для малявання па тканіне можна лёгка стварыць модны дызайнерскі выраб. Такога дакладна ані ў каго не будзе.

• Старыя джынсы

Лёгкім рухам рукі джынсы пераўтвараюцца ў элегантныя шорты, прытым, дзяўчатам раім для гэтых мэтаў узяць мужчынскія джынсы, у іх больш прыдатны крой. Са старых жаночых джынсаў, наадварот, лепш атрымаецца спаднічка. Увесь джынсавы скарб можна занесці ў майстэрню, дзе новую рэч упрыгожаць заклёпкамі, дзіркамі ці вышыўкай.



• Задам-наперад

З дзвюх рэчаў можна стварыць адну, мяняючы верх і ніз (спінку і перад) месцамі.

• Тканіна

Калі адзенне не падабаецца, а выкінуць шкада, можна разрэзаць на кавалачкі, а з іх, у сваю чаргу, зрабіць шмат чаго цікавага! Коўдра ў стылі пэчварк, цікавыя латкі ў тэхніцы бора, падушку ў тэхніцы сашыка, карціны кінусайга, цацкі, брошкі і г.д.

*Наша парада: не захоўвайце рэчы цалкам, а адрэжце ўсе гузікі, выдаліце швы, распарыце рукавы, скруціце атрыманыя кавалкі тканіны ў “ролы” і вертыкальна пастаўце ў скрыню. Гэта вельмі зручны спосаб захоўвання: усе кавалачкі бачныя, і не трэба капацца ў стосе ў пошуках патрэбнага.*

# Крок 2: Папяровая рэвалюцыя

Мы захоўваем вельмі шмат паперы, але пакольки яна ляжыць паўсюль, мы нават не ўсведамляем, колькі патэнцыйнай макулатуры вакол. Дагаворы, чэкі, квітанцыі, гарантыйныя талоны, тэрмін якіх выйшаў, старыя штодзённікі і г.д. Прынцып уборкі ў дакументах вельмі просты – пакінуць усё патрэбнае.

## Ёсць ідэя!

• Творчыя паперы

Эскізы, замалёўкі і скетчбукі патрабуюць ашчаднага захоўвання, бо ў іх жывуць нашыя думкі і ідэі. Завядзіце асобную прыгожую скрыню для іх. Няхай гэта будзе ваша скрыначка натхнення, у якой заўсёды можна знайсці цікавую ідэю.



• Скануем

Дакументы, якія не патрэбны ў арыгінале, але з якімі мы баімся развітацца (а раптам спатрэбяцца!), можна адсканаваць і захоўваць у памяці камп'ютара ці ў інтэрнэт-сховішчы.

# Крок 3: Інфармацыйная вайна

Пачынаем з працоўнага стала камп'ютара (планшэта ці тэлефона). Выдаляем усе праграмы, якімі не карысталіся больш за месяц ці ўвогуле адкрывалі толькі аднойчы адразу пасля загрузкі. Яны не толькі візуальна засмечваюць прастору, але і з'ядаюць каштоўныя гігабайты памяці.

Выдаляем усе "Новыя тэчкі" пад любымі парадкавымі нумарамі :) Паверце, нічога каштоўнага там няма.

Навёўшы парадак на "працоўным стале", бяромся за фота, відэа і музыку. Сартыруем усё патрэбнае па тэчках, выдаляем непатрэбнае. Каб было не так сумна ўсім гэтым займацца, можна прыдумаць выніковую мэту разбору інфармацыі. Напрыклад, выбраць фотаздымкі для друку ці скласці музычныя плэйлісты пад настрой (для трэніровак ці адпачынку).

## Ёсць ідэя!

• Карцінкі

Зараз няма неабходнасці складзіраваць у тэчках на сваім камп'ютары шмат карцінак. Ёсць цудоўныя сайты, напрыклад, Pinterest, дзе можна захоўваць усё, што падабаецца.

• Правады

У продажы можна знайсці спецыяльныя арганайзеры, чахлы і трубкі, каб схаваць правады. Пры жаданні такую прыладу можна зрабіць самастойна, напрыклад, з абутковай скрыні.



# Крок 4: Культурны пераварот

У кожнага ёсць свая “творчая майстэрня”, месца, дзе захоўваюцца інструменты і матэрыялы для творчасці. Неістотна, займае яна асобнае памяшканне ці маленькую скрыню. Самы галоўны прынцып захоўвання інструментаў і матэрыялаў – парадак! Бяромся за справу: мыем, чысцім і раскладваем інструменты па калібры і прызначэнні, сартыруем матэрыялы, дасканала вычышчаем працоўныя паверхні. Вельмі зручна для захоўвання выкарыстоўваць суадносныя па памеры скрыні. Падпісваем месцы захоўвання інструментаў і матэрыялаў. Самае прыемнае, што ў працэсе ўборкі вы заадно праведзяце інвертарызацыю і знойдзеце не адну карысную рэч, пра якую і думаць забылі.

## Ёсць ідэя!

• Сістэма

Галоўны прынцып захоўвання – усё аднолькавае захоўваць у адным месцы: пацеры з пацерамі, фарбы з фарбамі, тканіны з тканінамі. Калі вы цікавіцеся некалькімі відамі творчасці, то стварыце для іх асобныя скрыні, напрыклад, “Скрапбукінг”, “Вышыванне” і пад. Галоўнае – дасягнуць зручнасці і прастаты ў пошуку неабходнага.

• Развітваемся прыгожа

Калі вам не патрэбны нейкія інструменты, не захоўвайце іх, яны толькі займаюць месца. Падзяліцеся ці прадайце іх іншым майстрам.

• Усяму сваё месца

Рэгулярна аналізуем, ці на сваіх месцах жывуць рэчы. Выкарыстоўваеце нешта часта – захоўвайце гэта так, каб было зручна даставаць. Матэрыялы, якімі карыстаецеся зрэдку, адпраўляеце на самыя далёкія палічкі.

• Тушым пажар, не даўшы яму разгарэцца

Вызначаем “гарачыя кропкі” – месцы, дзе пастаянна назапашваецца як патрэбны, так і непатрэбны хлам. Выдзяляем па 5 хвілін раніцай ці ўвечары на тое, каб разбіраць менавіта гэтыя месцы.

# Крок 5: Сістэмныя рэформы

Прыемная хітрасць у тым, што як толькі нейкі куточак у доме пачаў "блішчэць", аўтаматычна прачынаецца смага паўсюль стварыць прыгажосць і ўсталяваць парадак. У такім выпадку будзе карысна выбраць адну з сістэм для навядзення парадку, якіх распрацавана мноства, пры жаданні іх лёгка можна знайсці ў інтэрнэце. Прыводзім некалькі прыкладаў.

## Сістэма Fly Lady (Флайледзі)

Была распрацаваная амерыканкай Марлай Сілі (Marla Cilley) у 1999 годзе.
Кожны дзень выдзяляем не болей за 15 хвілін уборцы пэўнай зоны памяшкання. Этапы:
1. Раздзяляем памяшканне на зоны.
2. Адна зона – адзін тыдзень. Кожны дзень выдзяляем адной і той жа зоне 15 хвілін.
3. З наступнага тыдня бярομся за новую зону.
Такім чынам, усяго за 15 хвілін у дзень можна вельмі хутка дабрацца да самых далёкіх куточкаў сваіх скрыняў і палічак і трымаць іх у пастаянным парадку.

## Сістэма "5С"

Была распрацаваная ў пасляваеннай Японіі як спосаб арганізацыі і рацыяналізацыі працоўнага месца, але паспяхова прымяняецца і дома.
Працэс уборкі дзеліцца на 5 этапаў:
1. "Сартыроўка": сартыруем усё, што захламляе дом.
2. "Свае месцы": у кожнага прадмета павінен быць свой "дом".
3. "Сябруем з чысцінёй": рэгулярна наводзім парадак.
4. "Стандартызацыя": фатаграфуем ці замалёўваем ідэальна прыбраную прастору для арыенціру.
5. "Спрабуем удасканальваць": не спыняемся на дасягнутым!

## Метад уборкі Канмары

Метад апісаны ў кнізе Мары Кандо "Магічная ўборка. Японскае мастацтва навядзення парадку дома і ў жыцці". Некалькі карысных парадаў:
- Не ўпэўнены, ці патрэбна вам рэч? Запытайце сябе, ці выклікае яна радасць?
- Ніколі не складвайце рэчы стосамі, імкніцеся да вертыкальнага захоўвання.
- Памятайце, парадак прыцягвае ўдачу.

# Крок 6: Усё ў парадку з галавой

Наводзіць парадак можна і трэба не толькі вакол сябе, але і ўнутры. Пагаворым крыху пра гэта. Чаму крыху, ды таму, што тэма гэтая настолькі вялікая, што патрабуе асобный размовы.

• Складаем планы і спісы

Можна забываць іх праглядаць, не памятаць, дзе ляжыць той ці іншы спіс спраў, але сам працэс напісання сваіх думак ужо замацоўвае іх у нашай памяці, канкрэтызуе мэты, дапамагае вызначыць неабходныя крокі для іх дасягнення ў вызначаных часавых межах. Існуе шмат методык планавання, істотна абраць тую, што падыходзіць менавіта вам. Напрыклад:

Прынцып Эйзенхаўэра,
які прапаноўвае раздзяленне ўсіх спраў на 4 катэгорыі, у залежнасці ад іх істотнасці і/ці тэрміновасці.

Правіла Парэта, ці “80 да 20”, асноўным прынцыпам якога з’яўляецца тое, што найменшая частка дзеянняў прыносіць найбольшую частку вынікаў.

Метад хранаметражу, які ажыццяўляецца праз вымярэнне затрачанага часу на выкананне пэўнай задачы.

Дыяграма Ганта,
якая выкарыстоўвацца для ілюстрацыі плана ці графіка прац па якімсьці праекце.



• Адпачываем ад празмернай плыні інфармацыі

Ладзім дзень без сацыяльных сетак, тэлевізара і пад. Гэта дапаможа адчуць сваё ўласнае жыццё і імклівы рух часу.

• Здаровы лад жыцця

Няўпэўненасць у сабе выдатна лечыцца спортам і шпацырамі на свежым паветры. Праверана!

• Свой дзень

Вазьміце ў якасці правіла адзін дзень месяца прысвячаць выключна сабе: правядзіце яго так, як хочацца вам, забудзьце часова пра клопаты, справы і планы. Хай, напрыклад, гэта будзе дзень лічбы вашых народзінаў.

• Адганяем ад сябе негатыў

Дрэнныя думкі замінаюць радавацца жыццю, перашкаджаюць натхненню, рэалізацыі задуманага.
Адзін са спосабаў навучыцца гэтаму – жыць па методыцы “фіялетавага бранзалета”. У 2006 годзе амерыканскі святар Уіл Боўэн прапанаваў простую ідэю: надзець фіялетавы бранзалет і на працягу 21 дня перастаць крытыкаваць, пляткарыць, скардзіцца на сябе і на людзей вакол. Калі на пряцягу гэтага перыяду не атрымаецца прытрымлівацца гэтага прынцыпу, трэба надзець бранзалет на іншую руку і пачаць адлік дзён наноў. Спачатку бранзалет будзе мяняць руку па 30 разоў у дзень, але хутка гэтая колькасць пачне скарачацца, і вам стане лягчэй кантраляваць думкі, бо яны маюць адлюстраванне ў фізічнай дзеі.

Ёсць ідэя! Бранзалет можна вырабіць самастойна з пацераў (драўляных, металічных, шкляных, керамічных) і гумавай нітачкі.

• Уваходзіць, але не выходзіць

У плыні бясконцай інфармацыі і зносінаў мы шмат бяром, але мала аддаем. Важна дзяліцца ведамі і вопытам, каб вызваліць месца для свайго будучага натхнення і крэатыву. Будзьце ўдзячныя навакольнаму свету і жыццю.

• Вызваліць свае думкі

Калі вельмі шмат спраў, а думкі ў галаве ствараюць хаос, то можна паспрабаваць іх намаляваць.

Ёсць ідэя! Вазьміце вялікі аркуш паперы, а яшчэ лепей – рэшткі шпалераў, і не абмяжоўвайце сябе: малюйце, змешвайце фарбы, калякайце. Не хочацца маляваць – пішыце, як раіць аўтар кнігі “Шлях мастака” Джулія Кэмеран. Гэты спосаб называецца “Ранішнія старонкі”: завядзіце сабе сшытак і кожную раніцу спісвайце не менш за дзве старонкі. Што пісаць – зусім неістотна, проста расслабцеся і пішыце, не задумваючыся, “выпісвайце” ўсё са сваёй галавы, тым самым вы яе разгрузіце і вызваліце.

• Чытаем кнігі

Чытанне дапамагае настроіць сябе на творчы лад і пашырае гарызонты.

*Прайдзіце ўсе гэтыя крокі разам з намі, і ўпэўніцеся, што вясеннее абнаўленне думак, працоўных сталоў і шафаў абавязкова станоўча паўплываюць на вашу творчасць!*



# Вось і выйшаў чалавечак

Тэкст: Ксенія Сасніна
Ілюстрацыі: Ірына Бельская

*Прапануўваем разам з намі прайсці просты творчы тэст. У нас будзе магчымасць памаляваць і пафантазіраваць, а таксама дaveдацца пра сябе нешта новенькае.*

Ітак, задача схематычна намаляваць чалавечка, выкарыстоўваючы геаметрычныя фігуры:


квадрат


прастакутнік


кола


трохкутнік


зігзаг

Размяркоўвайце фігуры так, як лічыце патрэбным, рабіце іх любога памеру, выкарыстоўвайце любыя фігуры ў любой колькасці. Прайдзіце гэты тэст разам з роднымі ды блізкімі і даведайцеся, што за ~~фігура~~ асоба з вамі жыве.

Расшыфроўку тэсту глядзіце на старонцы 142

# У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ

*Тэкст: Вікторыя Анжэ*
*Падборка сайтаў: Таццяна Хлапкова*
*Фота: з пазначаных сайтаў*

*ALOVAK дзеліцца новай порцыяй любімых спасылак на анлайн-рэсурсы.*



## **pivenworld.com**

Ізраільскі мастак Ханох Півен ужо больш за дваццаць гадоў радуе дзяцей і дарослых сваімі ілюстрацыямі да кніг і часопісаў. Асабліва цікавыя яго калажы-партрэты знакамітасцяў, якія ён робіць з падручных матэрыялаў. У ход ідуць бананы, запалкі, макароны, канцылярскія тавары, абгорткі ад цукерак і мільён аб'ектаў, якія мы б ніколі не падумалі выкарыстоўваць у такіх творчых мэтах. Напрыклад, на яго сайце можна знайсці калаж-партрэт Эйнштэйна, зроблены з лямпачак і правадоў, Абамы – з жавальнай гумкі і рук статуі Свабоды, а Ельцына – з каўбасы!
Зарадзіліся гэтай шалёнай крэатыўнасцю? Тады наперад да стварэння свайго калажу! Як толькі ваша праца будзе гатова, сфатаграфуйце яе і размясціце ў дадатку http://www.pivenworld.com/hanoch-piven-apps. Ваш калаж стане часткай галерэі!




**Lil World**

Працягваючы тэму тэлефонных дадаткаў, прапануем звярнуць увагу на арт-фота-рэдактар Lil World. Хочаце дадаць фарбаў у шэрыя будні? Ператварыць сябе ў офіснай сукенцы ў прынцэсу з каронай і світай? Або пераўтварыць звычайнае фота ў паштоўку з тэкстам? У Lil World ёсць усе неабходныя для гэтага інструменты. Зараз вы сапраўды станеце каралём Фэйсбука, інстаграма і іншых сацыяльных сетак.



**nalichniki.com**

Усё пра драўляныя разьбяныя аконныя ліштвы на адным сайце. Ужо цяпер калекцыя налічвае некалькі тысяч фатаграфій, але ў праекта ёсць канчатковая мэта: сабраць інфармацыю пра ліштвы з усіх рэгіёнаў Расіі і сумежных краін і класіфікаваць яе.

На сайце таксама можна купіць тэматычныя паштоўкі, календары і папулярныя сёння размалёўкі, а таксама замовіць кнігу пра ліштвы, якая рыхтуецца да выхаду і грошы на выданне якой збіралі ўсім светам метадам краўдфандзінгу.

# КОШТ І КАШТОЎНАСЦЬ

Тэкст: Таццяна Г693рослер
Ілюстрацыі: Ірына Бельская



*У пэўны момант кожны майстар, што займаецца любімай справай, прыходзіць да рашэння ператварыць сваё хобі ў бізнес з магчымасцю зарабіць, адчуць запатрабаванасць і каштоўнасць свайго таленту. Аднак пытанне цэнаўтварэння для нас, творчых людзей, часцяком балючае і незразумелае. Між тым, вельмі істотна дакладна і ўпэўнена агучваць кошт вашага твора. Да гэтага трэба быць падрыхтаванымі! Але як адэкватна ацаніць свой выраб? Як улічыць не толькі выдаткі на матэрыялы, але і свой працоўны час? Давайце разбірацца.*

Самая галоўная ўстаноўка рамесніка, што робіць крок у свет гандлю, заключаецца ў тым, што калі вы выйшлі з вашым прадуктам на рынак, то вы ўжо ў самым актыўным працэсе продажу. Тут няма такога паняцця як "бясплатна", няма месца няўпэўненасці ў сабе і сваім таленце. Верце ў сябе і сваю творчасць, з годнасцю ацэньвайце яе. Ваша задача не проста акупіць матэрыял, выдаткаваны на выраб, але і атрымаць прыбытак. А прыбытак для нас, майстроў, гэта не проста матэрыяльны даход, – гэта паказчык запатрабаванасці тавару. У выніку, творчага чалавека вельмі акрыляе і натхняе цікаўнасць да яго прадукцыі і, канешне ж, сам факт яе продажу. Таму адлюструйце ў кошце ўсе вартасці вашай працы.

*Мы прапануем прайсці **тры крокі** на шляху да высвятлення цаны вашага выраба.*

## 1.

## Вывучыць наяўныя прапановы на рынку

Рэкамендуем пачаць з аналізу прапаноў іншых майстроў. Наведайце тэматычныя выставы, спецыяльныя магазіны, азнаёмцеся з пляцоўкамі анлайн-продажаў (у тым ліку і замежнымі). Такім чынам вы зможаце зарыентавацца ў рэальных коштах і ўбачыце, да чаго імкнуцца. Калі на рынку можна лёгка знайсці падобныя прапановы, то істотна прыйсці да нейкага кампрамісу паміж вашымі спадзяваннямі і існым попытам на прадукцыю.

## 2.

## Вызначыць цанавую палітыку свайго бізнесу

На дадзеным этапе варта вызначыць, якім чынам вы будзеце весці свой продаж.

У першым нумары часопіса ALOVAK мы падрабязна разглядалі пытанне пра мэтавую аўдыторыю вашага бізнесу. Вельмі істотна намаляваць партрэт вашага пакупніка для таго, каб правільна весці сваю цанавую палітыку. Неабходна памятаць, што высокі кошт у пэўнай ступені з'яўляецца знакам якасці і прэстыжу, часта менавіта ён вабіць пакупнікоў і вызначае для іх каштоўнасць тавару.

Тым не менш, некаторыя майстры сутыкаюцца з адсутнасцю продажу, ставячы надта высокі кошт на свае вырабы. Гэта негатыўна ўплывае на агульны настрой, які так істотны для творчага чалавека. Пачынае здавацца, што твой талент нікому не патрэбны, а гэта зніжае творчыя амбіцыі і жаданне далей працаваць. Таму вам загадзя трэба ацаніць свае магчымасці і абраць кірунак вядзення бізнесу:

- Адразу паставіць жаданы кошт і шукаць кліента, што гатовы яго аплаціць. Набярыцеся цярплівасці і ўпэўненасці ў сабе і сваіх вырабах, калі вашая цана высокая.

- Зрабіць кошт ніжэйшым, што прыцягне больш пакупнікоў. У ходзе “раскручвання” патроху павышаць цану выраба, даводзячы яе да жаданай. Але памятайце, што гаворка ідзе пра вашую працу, не дужа яе абясцэньвайце.
Прааналізуйце асартымент таго, што вы вырабляеце: усе вашыя вырабы знаходзяцца ў нейкім адным цанавым дыяпазоне ці ў вас разнастайныя тавары з вялікім роскідам коштаў?

- У першым выпадку вы вызначаеце, ці будуць гэта недарагія вырабы і прыбытак будзе атрымлівацца за кошт абароту продажу (дадзена цанавая палітыка рацыянальная для такога роду тавараў, як паштоўкі, магніцікі, нескладаная біжутэрыя і пад.). Альбо ж вы пазначаеце кошт у дыяпазоне “сярэдні-дарагі-эксклюзіўны” і атрымліваеце адчувальны прыбытак непасрэдна з кожнага продажу.

- У другім выпадку вы ставіце свой кошт на кожны від тавару, тым самым ахопліваеце вялікае кола кліентаў. Нешта з невялікім закладзеным прыбыткам прыносіць вам даход за кошт абароту, нешта “выстрэльвае” самастойна. Звярніце ўвагу, што наяўнасць асартыменту дазваляе актыўна выкарыстоўваць такі інструмент у маркетынгу, як “зніжкі і акцыі”, калі вы прэзентуеце нешта невялікае ў якасці падарунка альбо са зніжкай пры пакупцы больш дарагога выраба.

*Прадумайце загадзя пытанне перадаплаты на той выпадак, калі выраб робіцца пад замову, каб пазбегнуць канфліктых сітуацый.*

*Прыслухайцеся да сябе: калі вы адчуваеце дыскамфорт падчас продажу, перабудуйце сваё мысленне. Не думайце пра тое, што гэта вы “ўпіхваеце” нешта кліенту, а задайце ўстаноўку, што зацікаўлены ў пакупцы ў першую чаргу кліент, які не перажыве, калі не стане ўладальнікам вашага неверагоднага выраба.*

# 3.

## Пралічыць выдаткі

На гэтым этапе трэба крыху пазаймацца матэматыкай, любіце вы гэта ці не. Памятайце, што, як толькі вы пачынаеце прадаваць свой тавар, адразу неабходна весці ўлік. Мінімальны, просты, але ўлік абсалютна ўсяго, што тычыцца прыходу і расходу грошай. Завядзіце прыгожы сшытак, які не палохаў бы вас адным сваім “бухгалтарскім” выглядам, афармляйце справаздачы крэатыўна, даходы выдзяляйце зялёным колерам, а выдаткі – чырвоным. Малюйце ўсмешкі там, дзе ўсё добра, і хмаркі, дзе нешта ідзе не так. Палюбіце гэты сшытак, толькі так вы зможаце стаць паспяховым творчым прадаўцом. Бо такі ўлік неабходны не толькі для правільнага цэнаўтварэння, але і для агульнага аналізу прыбытковасці вашага бізнесу.

- Пачнем з таго, што разлічым кошт вашай працоўнай гадзіны. Падумайце, якім вы бачыце ваш штомесячны даход. Раздзяліце гэтую суму на 21 (колькасць працоўных дзён у месяцы). Атрыманы вынік раздзяліце на 8 (колькасць гадзін у працоўным дні). Гэта і ёсць чысты кошт вашай працоўнай гадзіны. Прапаноўваем закласці ў гэты кошт вашу магчымасць адпачыць, так званыя адпускныя. Для гэтага чысты кошт вашай працоўнай гадзіны памножце на каэфіцыент 1,1.




*Звяртаем увагу, што пад працоўнымі гадзінамі мы разумеем увесь час, выдаткаваны на працу над адным пэўным вырабам, уключаючы распрацоўку эскізу, закупку матэрыялаў, зносіны з замоўшчыкам, непасрэдна працу і г.д.*

- Імкніцеся максімальна дакладна правесці ўлік матэрыялу, які вы выкарыстоўваеце для аднаго выраба. Не забывайцеся, што ў дадзенай пазіцыі істотна ўлічыць і выдаткі на яго ўпакоўку, калі такая плануецца. Закладзіце адсотак ад кошту абсталявання і інструментаў, якія вы выкарыстоўваеце ў працы.

- Не варта забываць таксама пра сродкі, што выдаткоўваюцца на рэкламу вашай прадукцыі. Палічыце месячныя выдаткі на падтрымку сайта, друк візітовак, рэкламных флаераў, удзел у выставах, публікацыі рэкламных блокаў і інш. Раздзяліце атрыманую суму на сярэднюю колькасць продажу за гэты ж адрэзак часу. Аналагічны разлік правядзіце і з коштам арэнды майстэрні, калі яна ў вас ёсць.

- Не забывайцеся на падаткі, адсотак якіх таксама трэба ўключыць у кошт вашага выраба.

- Калі вы здаеце выраб на рэалізацыю, улічвайце ў кошце адсотак, які вы плоціце магазіну.

- Падумайце, якія яшчэ выдаткі вы робіце пры вырабе вашай прадукцыі, не адносьце іх на асабістыя расходы, а дадавайце ў кошт вашага тавару. Напрыклад, вашыя транспартныя расходы (паліва ў аўтамабілі, праязныя білеты і інш.), наведванне курсаў і трэнінгаў, што павышаюць кваліфікацыю і г.д.

Атрыманы вынік параўнайце з прапановамі вашых канкурэнтаў, што гандлююць падобнай прадукцыяй. Калі ў вас атрымалася меншая сума, то мае сэнс павысіць кошт. Калі большая, то яшчэ раз звярніцеся да пытання пра цанавую палітыку вашага бізнесу.

*Будзьце гатовыя да таго, што кліент можа запытацца, чаму ваш тавар каштуе даражэй за вельмі падобны выраб іншага аўтара. Загадзя прадумайце адказ на гэтае пытанне. Будзьце ўпэўнены ў якасці і ўнікальнасці вашай прадукцыі, давядзіце вашу пазіцыю да вашых кліентаў, не заніжайце кошт свайго тавару, што б там ні было ў канкурэнтаў. Не абясцэньвайце свой талент, свой працоўны час, верце ў вашага кліента і памятайце, што ён аддае перавагу якасці і каштоўнасці ручной працы, інакш ён бы не прыйшоў да вас. Любіце і цаніце сваіх кліентаў, і яны абавязкова вернуцца да вас.*

З дапамогай **калькулятара,** які спецыяльна для часопіса ALOVAK распрацавала наш аўтар Таццяна Грослер, вы зможаце падлічыць кошт вырабаў ручной працы.

Спяшайцеся спампаваць яго на нашым сайце alovakmag.by у раздзеле “Карыснае”!




# Складана вызначыць кошт сваім вырабам?



## ЁСЦЬ РАШЭННЕ!

# КАЛЬКУЛЯТАР ALOVAK

Спампуй і разлічы!



# 100 КВЕТАК

*У рубрыцы “100” мы малюем разам з чытачамі. Прычым, малюем адзін і той жа прадмет, але ў ста розных варыянтах. Гэта вельмі займальны і карысны занятак: ён развівае фантазію, удасканальвае навыкі ў маляванні. Акрамя гэтага дорыць салодкае пачуццё перамогі, калі заканчваеш маляваць апошнюю, сотую карцінку!*

Для новага нумара мы малявалі разам з нашымі чытачамі кветкі, якіх нам даслалі амаль 1000: рознакаляровых і манахромных, намаляваных алоўкам і акварэллю, фламастарамі і маркерамі... Мы ганарымся нашымі чытачамі і прапануем вам паглядзець на нашу падборку!

1 – ALOVAK; 2-5 – @koyukova_lyudmila; 6, 11, 12 – @irinabeldesign; 7-10 – @iririnskaya; 13-20, 39, 50, 51 – @julia_and_handmade; 21-23, 33-37, 48, 49, 66-68, 90, 92 – @shibaiload; 24, 25 – Таццяна Кескевіч; 26, 27 – @ollga_ru; 28 – @katsibou; 29, 43-45, 84-86 – @dash.vlasova; 32, 47, 53-54 – Маша Завадзская; 38 – @nataly.vlasova.77; 40-42 – @shigaevanataly;



## ЯК ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У СТВАРЭННІ РУБРЫКІ “100” НАСТУПНАГА НУМАРА ЧАСОПІСА ALOVAK?

1. Тэма: **ЯГАДЫ**
2. Малюйце свае 100 любых ягад – у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў. Мы вітаем свабоду творчасці.
3. Калі вы намалюеце менш за 100 ягад – вы ўсё роўна можаце прыняць удзел у стварэнні рубрыкі.
4. Фатаграфуйце ці скануйце свае вынікі і дасылайце на e-mail alovak100@gmail.com з паметкай “100 ягад”. Альбо публікуйце іх на нашых старонках у Facebook і Вконтакте ці ў сваім профіле ў Instagram (хэштэг #100ягаддляALOVAK).
5. З усіх дасланых малюнкаў мы абяром 100 самых цікавых, якія і трапяць у рубрыку.

Жадаем вам натхнення!

46 , 55, 69, 70, 71, 74 – Алена Нагорная; 52, 75, 76, 77-80 –Ліда Шульган; 59-64 @volka_by; 65 – @vera.eysmont; 72, 73 – Ульяна Ягорава; 81-83, 97 – Алена Краўчанка; 87, 96 – @khrabrovskaya_irina; 88 – @julia_prohodskaya; 89 – @malicadoll; 91 – Аліса Ганус; 93-94 – @tsislavanna; 95– @yasnaya_jane; 98 – Святлана Арлова; 99, 100 –Алена Аўлашэвіч .



Мы зноў прапануем вам тварыць разам з намі і па ўжо сталай традыцыі паўдзельнічаць у конкурсе.
На гэты раз прапануем для натхнення фатаграфію Яўгена ГРАБКІНА, якая была зроблена ў парку горада Грац у Аўстрыі.

Вось як апісвае здымак наш аўтар Марыя СОНГАЛЬ:



*"Колер! Пяшчота! Вясна... Плаўны пераход ад белага да ўсіх адценняў ружовага – у цэнтры кампазіцыі аксамітныя кветкі вішні. Гэтая карціна – абяцанне шчасця: дрэва цвіце, неба зноў пяшчотна блакітнае, сонца зноў цёплае – афарбоўвае мяккім жоўтым святлом далікатна-зялёнае маладое лісце. Светлы фон паўтарае мазкамі асноўныя колеры: ад далікатна-ружовага да белага, блакітнага, жоўта-зялёнага. Яшчэ крыху, і, здаецца, адчуеш тонкі водар вясны".*

Фота: Яўген Грабкін
grabkin.by

Спецыяльна для нашага часопіса адзін з пераможцаў конкурсу малюнка мінулага нумара, Настасся ВАХОНІНА, намалявала карціну па матывах фатаграфіі. Як бачыце гэты гарадскі сюжэт вы? Намалюйце яго так, як адчуваеце, як умееце: у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў, галоўнае, каб ваш малюнак стаў уражаннем ад прадстаўленай фатаграфіі.



Ілюстрацыя: Настасся Вахоніна
instagram.com/_vakhonina

# ДАСЫЛАЙЦЕ

адсканаваныя ці знятыя вынікі вашай творчасці да нас у рэдакцыю на электронную пошту: **alovakmag@gmail.com** з паметкай "Вясновая галінка" або публікуйце іх на нашых старонках у **Facebook** і **Вконтакте**, там жа вы знойдзеце падрабязную інфармацыю пра правілы правядзення конкурсу і падарункі.

**Натхнення і ўдачы!**

*Падарунак пераможцу падрыхтуе крама "Всё для художника", наш пастаянны партнёр у конкурсе малюнка. Яшчэ адзін пераможца атрымае магчымасць стаць аўтарам малюнка для нашага конкурсу, які мы апублікуем у наступным нумары часопіса ALOVAK!*

«ВСЁ ДЛЯ ХУДОЖНИКА»

г. Мінск, вул. М. Танка, 30

**art-magazin.by**

# Мапа думак

*Тэкст, ілюстрацыі: Ірына Бельская*

Сёння мы разгледзім надзвычайны ўніверсальны метад, з дапамогай якога можна вынайсці нешта новае, спланаваць правядзенне любога мерапрыемства, запомніць інфармацыю, раскласці па палічках сваё жыццё і нават пачаць свой бізнес. Дастаткова сказаць, што гэтым метадам карысталіся Джардана Бруна, Леанарда да Вінчы, Чарльз Дарвін, Альберт Эйнштэйн, Сальвадор Далі і іншыя. У другой палове XX стагоддзя гэты метад даследаваў, склаў правілы і папулярызаваў брытанскі псіхолаг Тоні Б’юзэн.

**Тоні Б’юзэн** – аўтар методыкі запамінання, творчасці і арганізацыі мыслення “мапы розуму (памяці)” (па-англ. Mind maps). Аўтар і сааўтар каля 80 кніг, самая вядомая з якіх “Навучыце сябе думаць”. Яго працы перакладзены на 28 моў і апублікаваныя ў больш чым 100 краінах свету.

**Тэрмін “Mind-maps”** можа перакладацца як “інтэлект-мапы”, “мапы розуму”, “мапы думак”, “мапы мыслення”, “ментальныя мапы”, “мапы памяці” або “мапы свядомасці”.

Сутнасць метаду ў схематычным адлюстраванні вашых думак і іх узаемасувязі. Для гэтага спатрэбіцца ўвесь ваш жыццёвы вопыт, веды і асацыятыўнае мысленне. Толькі ад гэтага будзе залежыць ваш вынік.
Усё проста – бяром вялікі ліст паперы, можна ватман ці шпалеры, каб не абмяжоўваць свой крэатыўны парыў, аловак, ручку або фламастар, актывізуем памяць і пачынаем.

У цэнтры апісваем адным словам ідэю, над якой будзем думаць, і заключаем яе ў круг. Ад слова малюем галінкі, на якіх размяшчаем ключавыя словы, на адгалінаваннях – усе асацыяцыі, якія прыйдуць у галаву. У працэсе малявання ў вас абавязкова з’явяцца цікавыя думкі і ідэі.

**Каб адбылося тое самае азарэнне, “пстрычка”, прытрымлівайцеся правілаў:**

- ліст размяшчайце гарызантальна. Так будзе зручней “чытаць” мапу;
- ключавое слова пішыце ў цэнтры;
- старайцеся прыдумляць лаканічныя асацыяцыі, якія складаюцца з 1-2 словаў;
- пішыце словы разборліва, акрамя зручнага ўспрымання гэта дазволіць больш свядома складаць мапу;
- можаце выкарыстоўваць малюнкі і сімвалы;
- пішыце, пакуль не скончацца ўсе асацыяцыі.

*Для прыкладу паставім задачу прыдумаць арыгінальны кубак.*
*Вось якую мапу думак мы стварылі ў працэсе прыдумвання гэтых ідэй:*




*У выніку ў нас атрымаліся: кубак-матрошка, кубак у выглядзе калоны, кубак-вымя, кубак з ручкай у форме рукі, кубак з ручкай у выглядзе алоўка, кубак-домік і нават кубак-кошка.*

*Прыдумляйце творча і з задавальненнем!*

# #выбарALOVAK

*Стыльныя працы таленавітых майстроў у новай падборцы рэдакцыі нашага часопіса.*

Дарагія чытачы, вы можаце паўплываць на наш выбар – адзначайце фатаграфіі са сваімі вырабамі хэштэгам #выбарALOVAK, давайце ствараць рубрыку разам!

Карысны сняданак яшчэ смачнейшы ў **піяле** ад Сяргея Нарановіча (NARANOVICH CERAMICS)





Керамічныя **брошкі-птушачкі** ад Алены Нагорнай (Студыя ARTHAND) – яркі дадатак да вобразу







Чароўнымі букетамі квітнеюць **брошкі** ад Сашы Баршчовай

Лепшыя кампаньёны ў падарожжы – мілыя **зайчаняткі** ад Юлі Прашковіч

Мудрасць і спакой вылучае высакародны **алень** на медальёне ад Уладзіміра Чумакова (Майстэрня "СЕНА САЛОМА")

Мілы **світшот** ад TIKOTA UNIQUE – мара модніцы

Стыльны і ўтульны акцэнт інтэр'еру – дэкаратыўныя **падушкі** ад Юліі Трафіменка









**Партфель** ад Via Lattea змесціць усё неабходнае і нават крыху больш





Маленькі аазіс у вашым доме – **флярарыум** ад AN/DI store

Зелянее круглы год і не мае патрэбы ў паліве – цудоўны драўляны **вазон** ад Майстэрні "КРАСИВО ДОМА"

# ЗНАЧНАЯ ПТУШКА

*Птушка займае асаблівае месца ў нашай культуры. Яна сімвалізуе чысціню, веснавы настрой, шчасце. Яе можна пабачыць і на вышытых рушніках, і на маляваных куфрах, і на прадметах побыту. А вось шчэпавую птушку сустрэнеш зрэдку. Між тым, гэта наш традыцыйны абярэг. Калісьці яна жыла ў шматлікіх беларускіх хатах, а сёння трапляецца толькі што на кірмашах ці ў прыватных калекцыях. На шчасце, ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці традыцыя яе вырабу цудам захавалася, і на пачатку 2016 года яна была ўнесена ў спіс нематэрыяльных культурных каштоўнасцей Беларусі.*



Тэкст: Марыя Кліменцьева
Фота: Яна Яфрэмава



*Цэнтр рамёстваў, дзе сёння адраджаюцца традыцыі вырабу шчэпавай птушкі, змяшчаецца ў старым будынку чырвоных казармаў горада Бярозы. Зайшоўшы ўнутр, мы адразу адчулі моцны, але прыемны пах дрэва і ўбачылі драўляную качку пад столлю. Ды чаму дзівіцца: шчэпавая птушка стала сапраўдным сімвалам Бярозаўскага краю, і асабіста – самога Цэнтра рамёстваў. Мы паразмаўлялі з дырэктарам, Наталляй Іванаўнай КАВАЛЕВІЧ, якая ў гасціннай абстаноўцы расказала пра птушку, майстроў і працу Цэнтра ўвогуле.*

*- Раскажыце, як шчэпавая птушка атрымала сваё другое жыццё менавіта ў вашым Цэнтры?*

Да мяне птушка "прыляцела" ад Сяргея Сяргеевіча Юркевіча, бярозаўскага майстра родам з вёскі Сасноўка. Дзіцячыя ўражанні падштурхнулі яго да спробаў зрабіць такую птушку, але ён не змог знайсці майстра, таму звярнуўся да кніг. Сяргей Сяргеевіч расказваў, што бачыў шчэпавых птушак на кірмашы ў Бярозе, на вялікіх рынках, спрабаваў іх шукаць. Другі майстар, Канстанцін Канстанцінавіч Пунько, навучыўся рабіць птушак ад свайго бацькі, які быў добрым плотнікам. Пасля вайны бацька выразаў птушак і прадаваў на рынку. Хлопчык ведаў – калі тата нясе птушак на рынак, вернецца з цукеркамі ці якім іншым ласункам. Мабыць, таму ён іх запомніў, бо асацыяваліся яны з нечым прыемным, з радасцю. Сёння Канстанціну Канстанцінавічу ўжо за 80 год, вядома, птушак ён зараз не робіць, але вельмі хвалюецца за іх лёс. Таксама трэба ўзгадаць Мікалая Кандрацьевіча Галабурду з вёскі Судзілавічы. Менавіта яго тэхналогію вырабу шчэпавай птушкі перанялі два майстры нашага цэнтра – Аляксандр Пракапчук і Аляксандр Лаўрыновіч.

*- Шчэпавая птушка – гэта абярэг. А як ён дапамагаў, што азначаў?*

Сімвал птушкі прасочваецца ва ўсіх традыцыйных абрадавых дзействах, песнях. Шчэпавая птушка была абярэгам дзіцяці, яе падвешвалі над калыскай. Бабуля казала: "На яе крылах застаецца дурны погляд суседкі, з нядобрым вокам". Калі дзіця падрастала, птушку спальвалі ў печы: менавіта праз агонь, які заўсёды лічыўся ачышчальнай сілай. Яшчэ птушку вешалі ў куце, перад іконай. Да таго ж яна была абавязковым аздабленнем на Раство, як і саламяны павук. Раней ёлку ніхто не ставіў. У нас – вешалі птушку.

*- У якіх яшчэ народаў можна сустрэць шчэпавую птушку?*

Птушку пазнавалі ў Польшчы, на Люблінскім кірмашы, у якім мы прымаем удзел. Падыходзяць людзі, кажуць: “Вось у бабулі такія былі…” Але ўвогуле шчэпавая птушка сёння сустракаецца рэдка. Неяк на гэтым жа кірмашы да мяне падбег мужчына, нават не да мяне, а да птушкі, ды кажа, што вельмі доўгі час шукаў яе, бо ў кнігах бачыў, а вось “жывую” знайсці цяжка. Сам ён этнограф, зараз жыве ў ЗША. Робяць шчэпавыя птушкі таксама і на поўначы Расіі.

*- Якія ж асаблівасці мае наша беларуская птушка?*

Прынцыповых адрозненняў няма. Але нашыя – меншыя па памеры. Тыя ж расійскія птушкі робяць з сасны, яны вялікія. Нашы дрэвы – асіна, ліпа, яліна. З асіны, напрыклад, вялікую птушку не зробіш з-за ўласцівасцей дрэва: яно можа разламацца. Адрозніваюцца і ўзоры, якія выдумляе майстар, і асабліва дзюбка, па якой раней пазнавалі ўмельца. Але галоўнае і агульнае ва ўсіх птушках – гэта “замок”, то бок тэхналогіі злучэння пярынак.

*- Дзе яшчэ ў Беларусі можна пабачыць шчэпавую птушку, то бок куды вы з ёй выязджаеце?*

Мы штогод удзельнічаем у “Вясновым букеце”, які ладзіцца ў Мінску, робім выстаўкі на Дажынках. Заўсёды да нас падыходзяць майстры-разьбяры, цікавяцца. Думаю, пасля кожны з іх спрабаваў зрабіць такую ж. Мы толькі рады навучыць усіх ахвотных рабіць птушак, бо гэтая традыцыя павінна захоўвацца.

*- Як вы плануеце папулярызаваць птушку?*

Ну вось прайшло толькі 3 месяцы, як традыцыі вырабу шчэпавай птушкі надалі статус нематэрыяльнай культурнай каштоўнасці, а ўжо зроблена вялікая праца. Птушку паказвалі па тэлебачанні, распаўсюджваецца інфармацыя ў інтэрнэце. Мы таксама выходзім на кантакт з каледжамі. Я думаю, хутка мы самі будзем атрымліваць прапановы і ад іншых устаноў адукацыі краіны.





*- Ці ёсць ідэі мадэрнізаваць птушку, каб вярнуць яе ў нашае штодзённае жыццё?*

Саму птушку мы не мадэрнізуем: гэта традыцыя, якую нельга змяняць. Аднак ёй можна прыдаць сучаснае гучанне. Нашы майстры прыдумалі рабіць птушак на падстаўцы, гэта кабінетны варыянт. Дарэчы, такія ў нас замаўляла страхавая кампанія, як падарунак сваім кліентам. Аднойчы мы рабілі на заказ пару "галубоў", якія цалуюцца. Іх набылі бацькі маладой пары, якія хацелі, каб іх дзеці ажаніліся. Супадзенне ці не, але так і адбылося.

*Ад аўтара*

*Шчэпавыя птушкі ствараюць атмасферу спакою і дабрыні. Перш за ўсе таму, што яны з дрэва. Натуральны матэрыял не толькі дае прыемны прыродны пах, але і наогул ўвасабляе сабою чысціню і гармонію. Да таго ж "птушка" амаль бязважкая. Калі на яе глядзіш, сэрца поўніцца лёгкасцю і заспакоеннем.*

## ВАРТА ПАГЛЯДЗЕЦЬ

Бярозаўскі раён Беларусі багаты на цікавінкі. Вось няпоўны спіс:

• Адна з галоўных славутасцяў горада Бярозы – руіны Картэзіянскага кляштара. Вялізны комплекс будаваўся на працягу 1648-1689 гг., належаў вядомаму роду Сапегаў і лічыўся самым буйным кляштарам картэзіянцаў на тэрыторыі Еўропы. Сёння намаганнямі мясцовых улад і жыхароў раёна адноўлена брама кляштара.

• Сядзіба Пуслоўскіх у в. Старыя Пяскі, помнік архітэктуры класіцызму, пабудаваны ў XVIII-XIX стст. Асаблівую цікавасць прадстаўляюць ацалелыя ўязныя брамы.

• Царква Святога Мікалая-Чудатворца ў в. Чарнякова, што была пабудавана да 1725 году на месцы з'яўлення ў 1700 годзе цудатворнай іконы Божай Маці.

• Фэстываль народнага гумару "Спораўскія жарты", дзе можна пабачыць выступы выдатных фальклорных гуртоў. Кажуць, людзі гэтай вёскі – самыя вясёлыя!

*У майстэрні Бярозаўскага раённага Цэнтра рамёстваў мы на свае вочы змаглі пабачыць “нараджэнне” шчэпавай птушкі. Майстар Аляксандр ПРАКАПЧУК пакрокава паказаў працэс вырабу ды падзяліўся карыснымі парадамі.*

Тэкст: Марыя Кліменцьева
Фота: Яна Яфрэмава

## СПАТРЭБІЦЦА:

- дрэва (асіна, ліпа, яліна);
- разцы па дрэве;
- клей;
- лак;
- кручок для падвешвання.

## 6 ПАРАДАЎ АД МАЙСТРА

**1. Дрэва**
Дрэва павінна быць сырое і пэўнага ўзросту. Напрыклад, калі гэта яліна, – то не маладзейшае за 20 год. Сухое дрэва расшчэпваецца дрэнна, ламаецца, а сырое – цягнецца, вяжацца, і яго лепш апрацоўваць. Бруські, якія не выкарыстоўваліся адразу, варта кінуць у ваду, каб захаваць матэрыял для будучай працы.

**2. Інструменты**
Нож ці адмысловыя разцы. Вельмі зручна выкарыстоўваць востры канцэлярскі нож: лязо тонкае, добра адчуваецца рука. Але працэс вырабу ў гэтым выпадку даволі небяспечны. Разцы – надзейны інструмент, аднак праца атрымліваецца не такая вытанчаная. Пры выкарыстоўванні разцоў загатоўку ставяць у сталярныя ціскі, заціскаюць і выразваюць узор. Рэжуць вертыкальна – расшчапляюць.

**3. Злучэнне цела і крылаў**
Раней часткі птушкі злучаліся драўляным чопікам, які нашы дзяды самі рабілі. Сёння выкарыстоўваецца клей, вадзяны ці хуткасохлы.

**4. Падвешванне**
Зручна выкарыстоўваць маленькія металічныя кручкі. Галоўнае – спачатку даць птушцы высахнуць і толькі пасля шукаць цэнтр важкасці, каб прымацаваць падвеску, пакрываць гатовую птушку лакам неабавязкова, але мы гэта робім, каб пярынкі былі мацнейшыя і калі трапіць пыл ці бруд які, то была магчымасць пачысціць.

**5. Тэхніка бяспекі**
Выраб птушкі – працэс небяспечны. Трэба валодаць базавымі навыкамі працы з дрэвам, разумець тэхналогію. Нават дасведчаным майстрам варта быць акуратнымі, цярплівымі і не спяшацца.

**6. Разнастайнасць**
Акрамя традыцыйнай шчэпавай птушкі-голуба майстры цэнтра робяць сарок, снегіроў і качак. Калі пярынкі пры развядзенні сталі веерам, добра атрымліваецца лебедзь. Галоўнае для майстра – не пераставаць развівацца, эксперыментаваць.

# ПРАЦЭС:

**1.** Адразаем ад дрэва невялікі брусок, у залежнасці ад плануемага памеру птушкі. У нас 15 см.



**2.** Прыкладваем да бруска гатовае лякала (сваеасаблівы трафарэт) і абмалеўваем контуры птушкі.



**3.** Канцылярскім нажом ці іншым інструментам выразаем загатоўку па контуры. Не спяшаемся! Адмерваем сярэдзіну загатоўкі – тут пачнецца хвосцік. Але спачатку "абчэсваем", надаем форму галаве і целу птушкі, каб зрабіць яе круглявай і гладкай.



**4.** Пераходзім да хвосціка. На стыку хвосціка і тулава птушкі выразаем паглыбленне, каб нашчапаныя пярынкі не адламаліся, а раскрыліся “веерам”.



**5.** Выразаем узор на хвосціку: спачатку трохкутнікам “замок”, а потым даем волю фантазіі.



**6.** Расшчапляем хвосцік, то бок наразаем яго ўздоўж ці ўпоперак (у залежнасці ад абранага варыянту птушкі) на тонкія пласцінкі. Іх павінна быць няцотная колькасць. Чым больш – тым пышнейшы будзе хвосцік.



**7.** Разводзім пярынкі ў бакі па чарзе: першую (верхнюю) пакідаем на месцы, другую – улева, трэцюю – управа, чацвертую – улева, і г.д. Апошнія пярынкі (самыя ніжэйшыя) могуць разводзіцца ў бок амаль на $90^0$.



**8.** Зрабіўшы першую частку птушкі, пераходзім да другой – крылаў. Даўжыня брусочка, г.зн. даўжыня двух крылаў (у нашым выпадку – 2×6-6.5 см), павінна супадаць з памерамі бруска, з якога рабілі тулава і хвосцік. Шырыня мусіць адпавядаць шырыні пярынак на хвасце, а вышыня – прыкладна палове таўшчыні цела птушкі ці памеру выразу ў целе птушкі, у які будуць устаўляцца крылы. На крылах вырэзваем замок і ўзор, які супадае з узорам на хвосціку.



**9.** Пасля – "шчапуем" крылы і разводзім па такім жа прынцыпе, што і пёркі на хвосціку. Каб пярынкі выпадкова не адламаліся, можна замацаваць дрэва пасярэдзіне ніткамі ці зафіксаваць пласкагубцамі.



**10.** Нарэшце, злучаем дзве часткі нашае птушкі: робім у целе знізу невялічкі разрэз (прыкладна палова ад таўшчыні птушкі), куды ўстаўляем крылы нашае птушкі.



**11.** Пакідаем “птушку” на некаторы час, каб дрэва падсохла. Пасля дадаем трошачкі клею, каб надзейна замацаваць цела і крылы між сабой. Ці можна забіць маленькі цвічок. Пакрываем птушку празрыстым лакам. Даем падсохнуць.



**12.** Знаходзім цэнтр важкасці і прымацоўваем падвеску. Для гэтага можна выкарыстоўваць маленькія металічныя кручкі.

Птушка гатова!



# *ФОТАМАЛЮНКІ*

*Фатограф Яўген Ціхановіч спалучае ў сваёй творчасці магчымасці фатаграфіі і малявання: атрымліваецца вобразна, ярка і арыгінальна. Здымае і малюе Яўген сам: "Ідэя спалучыць фота і ілюстрацыі прыйшла тады, калі ў мяне з'явілася камера. Я цікавіўся інфармацыяй пра гісторыю фотаздымкаў і натыкнуўся на тэксты пра першыя фотакарткі. Атрыманыя веды і далі, напэўна, мне старт як фатографу".*

*У сваёй працы Яўгена натхняе вынік: "Вельмі прыемна бачыць свае творы, якія напачатку зараджаюцца ў галаве, потым плаўна перацякаюць на аркуш паперы ў выглядзе дзіцячага малюнка, а ў выніку становяцца паўнавартасным фотамалюнкам".*

*Працы фатографа неаднакроць былі прызнанымі найлепшымі на сайце часопіса Vogue Italia.*

***Карысная інфармацыя***

*Яўген Ціхановіч, фатограф*

*instagram.com/eugene_tihanovich*

# Афармляем стэнд:

## парады майстрам

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Марыя Сонгаль;
выстава-кірмаш “Млын”

*Беручы ўдзел ў кірмашах і выставах, майстры атрымліваюць каштоўны вопыт, знаходзяць новых пакупнікоў і абменьваюцца ведамі з калегамі. Трэба добра папрацаваць, каб выстава прайшла паспяхова і плённа. Недастаткова мець вырабы добрай якасці, трэба яшчэ і арыгінальна іх прыпаднесці, таму рамеснікі мусяць прадумаць кожную дробязь на сваім выставачным стэндзе.*

*У гэтым матэрыяле мы дзелімся карыснымі парадамі па афармленні стэндаў, якія дапамогуць як пачаткоўцам, так і “бывалым” рамеснікам сістэматызаваць свае веды.*

## • Падрыхтуйцеся загадзя

На ідэю і распрацоўку стэнда звычайна прыпадае шмат часу. Уявіце, якім мусіць быць ваш стэнд, лепш нават намалюйце яго! Можна зрабіць так: раскладзіце дома свае вырабы ў тым выглядзе, у якім яны павінны быць на стэндзе, сфатаграфуйце вынік. Гэта дапаможа адразу зарыентавацца на выставе падчас афармлення стэнда. Складзіце падрабязны спіс усіх рэчаў, якія вам спатрэбяцца, падумайце пра транспарціроўку ўсяго неабходнага на выставу. Істотна, каб вашае аздабленне збіралася лёгка і хутка, каб на месцы паспець зрабіць усё своечасова і не дужа пры гэтым стаміцца.

*Ірына Бельская, "Красиво дома":*
*"У мяне складзены спіс усяго, што мне спатрэбіцца. Паколькі маё афармленне стэнда ад кірмашу да кірмашу не змяняецца, я проста збіраюся на яго "па спісе" і не хвалююся, што нешта забыла. А яшчэ заўсёды прыемна, калі ёсць памочнік, які загрузіць цяжкія скрыні, збярэ стэнд і пасядзіць на месцы, калі я адлучуся павітацца са знаёмымі майстрамі".*

## • Збярыце інфармацыю

Азнаёмцеся з умовамі арганізатараў выставы. Даведайцеся, якія матэрыялы і тэхнічныя сродкі вы можаце выкарыстоўваць пры афармленні стэнда. Вызначцеся, што будзеце браць у арэнду ў арганізатараў (напрыклад, сталы і крэслы), а што прывезяце з сабой (напрыклад, стэлажы). Наведайце памяшканне, у якім будзе адбывацца выстава. Прыглядзіцеся да тэхнічных момантаў у афармленні іншых майстроў: як яны прымацоўваюць фон і палічкі, як выкарыстоўваюць мэблю. Калі ў вас з'явіліся пытанні, не саромейцеся задаваць іх арганізатарам ці майстрам.

## • Натхніцеся

Наведвайце разнастайныя кірмашы, набірайцеся новых уражанняў, шукайце ў інтэрнэце цікавыя ідэі, прасіце парады ў тых, хто знаёмы з вашай творчасцю. Дарэчы, арганізатары нярэдка прыдумваюць для выставы тэму, якой можна натхніцца, каб стварыць на сваім стэндзе нешта незвычайнае. Напрыклад, калі кірмаш прысвяцілі пачатку вясны, можна зрабіць акцэнт на зялёным колеры, павесіць гірлянду з жураўлікаў, паставіць вазончык з кветкамі. Ідэй з'яўляецца шмат, стварыць святочную атмасферу на стэндзе ўжо значна лягчэй.

*Ганна Пашукевіч, "Nyshka.art":*
*"Напярэдадні восьмага сакавіка мы вырашылі па-асабліваму ўпрыгожыць наш стэнд. Сплялі лічбу 8 з бярозавых галінак і павесілі яе на самым бачным месцы, а таксама паставілі некалькі маленькіх шпакоўняў".*

## • Крэатыўная падача

Стэнд павінен вылучацца, прыцягваць як мага больш увагі! Вы можаце выкарыстоўваць у афармленні як яркія колеры, так і манахромныя, залежыць ад вашага бачання. Калі вы ўдзельнічаеце ў выставе, дзе кожнаму ўдзельніку даецца стэнд са сценкамі, то прасторы для творчасці становіцца больш. Шпалеры, крафт-папера, тканіна, мох – вось толькі некалькі матэрыялаў, якія можна прымяніць. Прыдумаць цікавае афармленне стэнда, які складаецца з аднаго стала, – задача больш складаная, але цалкам дасягальная.
Вельмі істотна, каб выставачны стэнд быў у адным стылі з вашымі вырабамі. Ён павінен падаваць вашыя працы ў лепшым выглядзе, і пры гэтым не перацягваць увагу на сябе.

*Ганна Кулінковіч, дэкаратар:*
*"Мы заўсёды афармляем стэнд у экастылі. Выкарыстоўваем натуральныя матэрыялы з лесу: мох, лазу, галінкі. У нас сышло шмат часу на тое, каб зрабіць гэты дыван на сцяне. Але гэта мела поспех, ён вельмі прыцягваў увагу людзей".*

*Паліна Скараход, "Alice art studio":*
*"Мы натхніліся ідэяй стварыць свой шапік з ліманадам! Так атрымалася канструкцыя з дрэва, пафарбаваная ў пяшчотны ружовы колер, які пасуе да вырабаў. Я лічу, што трэба прытрымлівацца свайго стылю і прыслухоўвацца да сябе".*

## • Святло

Пры падачы заявы на ўдзел у выставе, пазначце, што вам спатрэбяцца разетка і свяцільні. Калі тое асвятленне, што ёсць, вас не задавальняе, вазьміце з сабой лямпы. Дадатковае святло зробіць акцэнт на шыльдзе, яна стане больш заўважнай.

*Яна Гусейнава, "MUSHI MISHI"*
*"Святло мусіць быць цёплым, менавіта такое спрыяе продажу. Ідэальнага рэцэпту не існуе, таму што ўсё залежыць ад таго, што майстар выстаўляе. Калі гэта маленькія прадметы, то крыніца святла можа быць бліжэй (настольная лямпа), калі гэта цацкі, то лепш выкарыстоўваць верхняе святло, але яно заўсёды мусіць быць накіраваным".*

*Вольга Зарэцкая, "Ruza"*
*"Я выкарыстоўваю дадатковае падсвятленне, калі трэба стварыць пэўную тэматычную атмасферу: напрыклад, неонавыя ліхтарыкі, калі кампазіцыя стэнда калядная, зімовая. У вясенняй мне здаецца больш дарэчным дзённае натуральнае святло. Але могуць быць і разнастайныя "пазасезонныя" варыянты. Напрыклад, калі тэма стэнда казачны лес ці нешта іншае, што патрабуе стварэння асаблівага таемнага ці чароўнага настрою, тады святло можа дапамагчы перадаць ідэю прац аўтара".*

## • Упрыгажэнні

Выкарыстоўвайце гірлядны, фіранкі, лямпачкі, шарыкі, сцяжкі... Вось ужо дзе ёсць прастора для фантазіі! Выдатна прыцягваюць увагу прадметы ў руху. Напрыклад, фігурка на сонечных батарэйках, якая хістаецца, альбо святлодыёдная гірлянда, ці вентылятар са стужачкамі, якія развіваюцца.

*Юля Прашковіч, "Bears&Bijou":*

*"Мой стэнд заўсёды аформлены ў вінтажным стылі. Сталая ўдзельніца маёй выставачнай экспазіцыі – дэкаратыўная птушыная клетка, у ёй, у залежнасці ад сезону, у мяне стаяць жывыя ці сухія кветкі. Гэтым разам я ўпрыгожыла стэнд старадаўнімі ключамі. Гэта ключы з майго любімага Полацка, са старога дома, што належаў сям'і майго мужа, можна сказаць, гэта нашыя сямейныя рэліквіі".*

*Таццяна Страх і Ігар Шаршнёў, "Веселый Роджер":*

*"Як паказвае практыка, нам дастаткова толькі павесіць некалькі лаўцоў сноў ці галінак, каб стэнд стаў адметным. Гэта прыцягвае ўвагу людзей, якія любяць усё незвычайнае. Вось так лаўцы сноў дапамагаюць нам лавіць людзей. Выдатна, калі ёсць фішка на стэндзе".*



# • Размеркаванне тавару

Вельмі істотна размеркаваць свае працы правільна, асабліва калі яны самі па сабе выкарыстоўваюцца для афармлення стэнда. Пры гэтым трэба ўлічваць і колькасць прац, і іх памер, і плошчу вашага стэнда. Істотны прынцып размеркавання вырабаў: па памеры, колеры, матэрыяле, з якога яны зроблены. На выставе рамеснік выконвае функцыі дызайнера і мерчэндайзера адначасова, таму паклапаціцеся пра тое, каб вам і пакупнікам было зручна дацягнуцца да любога выраба, не майструйце груvасткія кампазіцыі.

*Валянціна Ляпковіч, "Filida provence stories":*

*"Маё афармленне – гэта самі вырабы. Неяк да мяне падышла жанчына, уладальніца галерэі, і сказала, што з пункту гледжання маркетынгу я ўсё размеркавала правільна, чаргуючы вялікія працы з маленькімі. Па вопыце ведаю, што звычайна набываюць невялікія вырабы, у той час як буйныя прыцягваюць увагу да стэнда".*

# • Каб запомнілі

## Шыльда

Назва і слоган вашага брэнду мусяць быць навідавоку. Ці будзе гэта асветлены надпіс, слова з падушак-літар альбо акуратная драўляная таблічка – вырашаць вам. На выставах, як правіла, робіцца вельмі шмат фотаздымкаў, многія з іх трапляюць у сацыяльныя сеткі. Дзякуючы шыльдзе будзе зразумела, каму належаць вырабы, а патэнцыйныя пакупнікі лёгка знойдуць вас у інтэрнэце.

*Ірына Санько, "Серый СаквояжЪ":*

*"На маім стэндзе ёсць шыльда, зробленая з паркетнай дошкі. На мой погляд, шыльда – вельмі істотны момант, яна як прозвішча для чалавека, як абазначэнне цябе ў свеце рукадзелля".*

## Візітоўкі

Візітовак спатрэбіцца шмат – іх разбіраюць імгненна. Знойдуцца пакупнікі, якія захочуць звязацца з вамі, распавесці пра ваш брэнд сябрам і знаёмым. Вырашыце, куды вы будзеце складваць візітоўкі, пры неабходнасці падрыхтуйце для гэтага спецыяльную скрыню альбо кошык у вашым стылі. Можаце зрабіць і так: раздрукуйце свае кантакты на аркушы фармату А4 і павесьце яго на сцяну, а зацікаўленыя пакупнікі проста сфатаграфуюць яго. Не будуць лішнімі лістоўкі альбо каталог вашых прац.

*Юля Прашковіч, "Bears&Bijou":*

*"Каб візітоўкі візуальна не губляліся ў выставачнай прасторы, іх можна пакласці на асобны сподачак, сурвэтку ці на спецыяльную падстаўку для візітовак. А каб імя майстра ці брэнд захаваліся на фотаздымках пакупнікоў выставы, можна дадаткова размеркаваць іх па стэндзе побач з сваімі працамі".*

*Яна Гусейнава, "MUSHI MISHI":*

*"Па-першае, візітоўкі трэба класці ў пакунак з набытым вырабам. Па-другое, яны мусяць прысутнічаць на стэндзе, але не з самага краю, а крыху падалей. Каб дзеці не расхапілі на сувеніры, але чалавек, што жадае разгледзець вырабы ў спакойнай абстаноўцы, мог заўважыць візітоўкі і дацягнуцца да іх. Шмат візітовак не трэба навальваць. Але рэгулярна сачыць, каб іх было дастаткова, каля дзясятка".*

## Знешні выгляд

Што сабой уяўляе чалавек, які стварыў выстаўленую на стэндзе прыгажосць? Сваім знешнім выглядам вы можаце падкрэсліць трапяткое стаўленне да сваіх прац: апрануць на сябе ўпрыгажэнні ўласнай вытворчасці альбо цішотку з такім жа прынтам, як і на вырабах, што знаходзяцца ў продажы... Не забывайцеся на яшчэ адно вельмі істотнае ўпрыгажэнне стэнда – усмешку майстра!

*Вольга Зарэцкая, "Ruza":*

*"Істотна не западаць у крайнасці і не стаць адной са сваіх прац. Мне здаецца, што дастаткова таго, каб не вылучацца з агульнага афармлення па колеравай гаме і агульнай стылістыцы. Да прыкладу, калі стэнд і працы ў нацыянальным стылі, неабавязкова апранацца ў народны строй, але і сустракаць гасцей стэнда ў яркай міні-сукенцы таксама недарэчна. Ва ўсім мусіць быць мера".*

## Упакоўка

Прыгожая ўпакоўка ў стылі вашых вырабаў – выдатны бонус да пакупкі. Можна зрабіць упакоўку ўласнымі рукамі ці набыць пакеты з крафт-паперы і паставіць на іх свой лагатып. Існуе шмат варыянтаў упакоўкі – абярыце адзін з іх і радуйце сваіх пакупнікоў.

# • Зона камфорту

Удзел у выставе абавязвае майстра доўгі час знаходзіцца ля сваіх вырабаў. Паклапаціцеся пра свой камфорт і арганізуйце ўтульны куток на стэндзе. Схавайце скрыні і асабістыя рэчы, што вы прывезлі з сабой, за стэлажом ці пад сталом, каб пакупнікі не бачылі анічога лішняга.
Калі вы прадаяце ўпрыгажэнні, вопратку ці аксэсуары, вам спатрэбіцца люстэрка. Яно не толькі дапаможа кліентам, што абіраюць тавар, але і прыцягне ўвагу мінакоў. Каму не захочацца спыніцца і паглядзецца ў люстэрка? Магчыма, яно будзе такім прыгожым і незвычайным, што нават стане фішкай вашага стэнда.

*Вікторыя Каленік, дызайнер упрыгажэнняў:*
*"У гэтым годзе я свядома адмовілася ад стала, на гэта мяне натхніў стэнд Аксаны Ласюк, адной з удзельніц леташняй выставы. У адмове ад стала бачу шмат плюсаў. Па-першае, праз стол мне нязручна размаўляць з пакупнікамі і прапаноўваць сваю дапамогу. Па-другое, гэта камфортна пры вялікай плыні людзей. Пакупнік "заходзіць" усярэдзіну і нікому не замінае. Па-трэцяе, месца на стэндзе значна больш, чым на стале, варыянтаў размеркавання вырабаў мноства.*
*Асобна адзначу важнасць люстэрка, для многіх катэгорый вырабаў яно проста неабходна. Афармленне майго стэнда дазволіла павесіць на сцяну вялікае люстэрка – гэта вельмі зручна для пакупнікоў".*



Падводзячы вынікі, мы раім хадзіць на кірмашы з добрым настроем!

Як сказала адна з майстрыц *Аксана Зелянко:* *“Гэта ж выстава – тут трэба не проста прыйсці і прадаць, а паразмаўляць, выклікаць у іншых станоўчыя эмоцыі. Бясцэнна, калі людзі ідуць і ў іх загараюцца вочы. Дзеля гэтага трэба браць удзел і прыгожа афармляць стэнды”.*

*Любая выстава – гэта вопыт,*
*так што адважвайцеся!*
*У вас абавязкова ўсё атрымаецца!*



# Я да вас пішу...

*У папяровых лістах асаблівая магія і прыгажосць. Глыбокія, іранічныя, адкрытыя, сумныя – яны падобны на невялікія гісторыі жыцця, распаведзеныя на некалькіх старонках.*
*У гэтым нумары раім азнаёміцца са зборнікамі лістоў, якія пад-купляюць сваёй шчырасцю і даюць магчымасць паглядзець на жыццё геніяльных асоб з іншага боку.*



Тэкст: Кацярына Чарняўская
Ілюстрацыя: Лілія Давыдоўская

## Зігмунд Фрэйд "Лісты да маладой"

(пераклад з нямецкай мовы на рускую "Письма к невесте", С.В.Лайнэ)

Будучы знакаміты псіхіятр на працягу чатырох гадоў заручынаў ліставаўся са сваёй каханай Мартай Бернайс. Пара пазнаёмілася ў доме бацькоў Фрэйда, Марта была сяброўкай яго сястры. Выпадковае знаёмства перарасло ў моцную прыхільнасць: муж і жонка пражылі доўгае шчаслівае жыццё, у іх было шасцёра дзяцей. За чатыры гады Зігмунд адаслаў маладой больш за паўтары тысячы глыбокіх і пяшчотных лістоў, напоўненых філасофскімі развагамі пра жыццё, смерць і тайны чалавечай псіхікі.

## Оскар Уайльд "Лісты"

(пераклад з англійскай мовы на рускую "Письма", У.Варонін, Л.Матылёў, Ю.Разантоўская)

Драматург і пісьменнік, заснавальнік інтэлектуальнага тэатра, Оскар Уайльд эпатаваў публіку сваім іранічным талентам. На працягу ўсяго жыцця пісьменнік ліставаўся з роднымі, сябрамі, рэдактарамі лонданскіх газет. Першы ліст ён напісаў у 13 гадоў, апошні – за 10 дзён да смерці. Яго творчасць суправаджалася гучнымі скандаламі, а дасціпныя выказванні станавіліся цытатамі. Па іроніі лёсу рэшту жыцця Уайльд правёў у нястачы, невядомасці і адзіноце. Памёр пісьменнік у заняпалым французскім гатэлі. Апошнімі ягонымі словамі былі: "Альбо я, альбо гэтыя мярзотныя шпалеры ў кветачкі".

## Эрых Марыя Рэмарк "Скажы мне, што ты мяне кахаеш...". Лісты да Марлен Дытрых.

(пераклад з нямецкай мовы на рускую "Скажи мне, что ты меня любишь...", Я.Фактаровіч)

Нямецкая зорка Галівуда і знакаміты пісьменнік упершыню сустрэліся ў берлінскім гатэлі "Эдэн" у 1930 годзе, але іх імклівы раман завязаўся толькі пасля 7 гадоў. Адносіны не былі простымі: багемны лад жыцця і пастаянныя здрады Марлен катавалі Рэмарка. Ён прысвяціў ёй раман "Трыўмфальная арка" і пакінуў чуллівыя, шчырыя лісты, напоўненыя пяшчотай і смуткам. Лістоў у адказ ад Дытрых захавалася няшмат, большасць з іх пасля смерці Рэмарка спаліла ўдава пісьменніка.

## Вінцэнт ван Гог "Лісты да брата Тэо"

(пераклад з англійскай мовы на рускую "Письма к брату Тео", П. Мялкова)

Ван Гог, які не быў прызнаны сучаснікамі і стаў ахвярай сваёй геніяльнасці, пражыў трагічнае жыццё, поўнае непаразуменняў, крытыкі і кпінаў. Адзіным, хто працягваў верыць у мастака, быў брат Тэо – паспяховы арт-дылер, які падтрымліваў ван Гога на працягу ўсяго жыцця. "Мы намалявалі гэтыя карціны", – пісаў Вінцэнт брату, і гэта было чыстай праўдай. "Лісты да брата Тэо" – споведзь пра сапраўднае сяброўства, сілу чалавечага духу, творчасць і любоў да мастацтва.

# Вось і выйшаў чалавечак

## Расшыфроўка тэсту са стар. 91

Тэкст: Ксенія Сасніна
Ілюстрацыі: Ірына Бельская

*Падлічыце колькасць фігур на вашым малюнку. Якую з іх вы выкарыстоўвалі найчасцей? Калі ў вас аднолькавая колькасць дзвюх і болей фігур, значыць вы спалучаеце ў сабе якасці некалькіх тыпаў.*



**Квадрат.** Людзі-“квадраты” цярплівыя, упартыя і працалюбівыя. Яны метадычна рухаюцца да пастаўленай мэты і не спыняцца, пакуль не дасягнуць яе. Любяць, калі ўсё ідзе па плане і з насцярожанасцю ставяцца да пераменаў у жыцці.

**Прастакутнік.** Гэтая фігура сімвалізуе стан пераходу і змен. З’яўляецца часовай формай, якую могуць “насіць” астатнія чатыры фігуры, калі маюць патрэбу ў жыццёвых пераменах. Асноўная характарыстыка людзей-“прастакутнікаў” – незадаволенасць сваім бягучым станам, пошук лепшага рашэння, якое яны спрабуюць знайсці ў зносінах з іншымі людзьмі. Нягледзячы на тое, што гэты памежны стан можа прыносіць нязручнасці людзям вакол, гэтыя “прастакутнікі” прыцягваюць сваёй цікаўнасцю, смеласцю і жывым інтарэсам да ўсяго.



**Кола.** "Кола" як ніхто іншы ўмее спачуваць і суперажываць. Такі чалавек лёгка можа ўявіць сябе на месцы іншага, адчуць чужыя эмоцыі і падзяліць іх. Добрыя і спагадныя людзі-"колы" могуць адчуваць сябе шчаслівымі толькі ў тым выпадку, калі ўсё ў парадку не толькі ў іх, але і ў родных ды сяброў. Чалавек-"кола" валодае вобразным, эмацыйна афарбаваным мысленнем.

**Трохкутнік.** Людзі гэтага тыпу – сапраўдныя лідары. Яны напоўненыя энергіяй, валодаюць славалюбствам і прагматызмам. Людзі-"трохкутнікі" пралічваюць кожны крок, яны амбітныя: ведаюць, чаго хочуць і як гэтага дасягнуць. Не любяць мяняць свае рашэнні, часта бываюць катэгарычнымі. Вучацца хутка і паспяхова, умеюць рабіць кар'еру і становяцца выдатнымі менеджарамі.

**Зігзаг.** Самы творчы тып асобаў. Яны адмаўляюць пракладзеныя сцежкі, штампы і стэрэатыпы, любяць рабіць усё па-свойму, вынаходзячы нестандартныя шляхі і рашэнні. "Зігзагі" – харызматычныя і абаяльныя людзі. Калі ім у галаву прыйшла якая-небудзь ідэя, у іх тут жа ўзнікае жаданне падзяліцца ёй з усім светам.

# vienas DU TRYS

*У кожным нумары ALOVAK дзеліцца сваімі простымі ідэямі, якія паляпшаюць жыццё. Што мы маем на ўвазе пад гэтымі ідэямі? Ды ўсё, што заўгодна! Галоўнае, каб гэта:*
*- выклікала ўсмешку;*
*- прымушала забывацца на клопаты і праблемы хоць на хвілінку;*
*- давала магчымасць парадаваць сябе і людзей вакол.*

*Тэкст: Ірына Бельская, Кацярына Буто*
*Фота: Кацярына Буто*

## Простая ідэя НУМАР АДЗІН►

Ці вырошчваеце вы вострыя травы? Пачаць ніколі не позна. Каб не забыцца, што вы пасадзілі, зрабіце шыльдачкі з назвамі. Падыдзіце да гэтага пытання творча! У нас атрымаўся кот Базілік. Выражце героя з паперы, падпішыце і, расшчапіўшы палачку або шпажку, устаўце ў разрэз.
Наша парада: зручна, калі палачка/шпажка высокая – тады шыльда не намокне пры паліве.

Звярніце ўвагу!
Спампаваць шаблон шыльдачак для раслін можна на нашым сайце alovakmag.by у раздзеле “Карыснае”.

## Простая ідэя
## НУМАР ДВА►

Калі пасля Новага года ў вас засталася зробленая сваімі рукамі “альтэрнатыўная” елка, тады гэта ідэя для вас! Падарыце вашай прыгажуні новае жыццё, упрыгожыўшы яе па сезоне. Вясной і летам для гэтага падыдуць кветкі, галінкі і нават ракавінкі. Увосень – жоўта-чырвонае лісце дрэў, каласкі збожжавых культур. Матэрыялы для такога дэкору можна падбіраць як жывыя, так і зробленыя з падручных прадметаў. Для нашай елкі мы абралі папяровыя кветкі – вось дзе творчая фантазія можа разгарнуцца!

## Простая ідэя
# НУМАР ТРЫ▶

Любіце пісаць сабе жыццёвыя лозунгі ці пакідаць сваім родным і блізкім запіскі? Прапануем рабіць гэта прыгожа. Дастаньце шкло з рамкі, устаўце шчыльную паперу або кардон, на які прыляпіце маленькую прышчэпку. Выражыце ліст паперы меншага памеру, напішыце на ім жыццесцвярджальны прынцып або пералік спраў на дзень і заціcніце яго прышчэпкай. Пастаўце рамку на стол ці павесьце на сцяну, каб яна была заўсёды на вачах і матывавала вас!

# ALOVAK offline:
## бавім час разам

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Марыя Сонгаль, Кацярына Буто

*Рыхтуючы да выпуску вясенні нумар, мы паспелі не толькі падабраць для вас самыя цікавыя матэрыялы, але і зладзіць некалькі творчых сустрэч. Мы малявалі, майстравалі і шмат размаўлялі. Калі вы яшчэ не далучыліся да нас, то паспяшайцеся гэта зрабіць – наперадзе яшчэ шмат цікавага!*

### Шышкавы майстар-клас

Каманда нашага часопіса так захапілася прадметам зімовага нумару, што вырашыла прысвяціць яму першую сустрэчу ў межах праекту "Майстэрня ALOVAK". 20 лютага мы сабраліся ва ўтульным тайм-клубе "Сямейны падворак", каб навучыцца ствараць фларыстычныя кампазіцыі з шышак. Творчы працэс адбываўся пад кіраўніцтвам Кацярыны Каранюгінай, стваральніцы студыі фларыстыкі Katarios. З яе дапамогай ва ўсіх атрымаліся прыгожыя і арыгінальныя шышкавыя букеты. Сустрэча была прасякнута прыемнымі размовамі на творчыя тэмы, а частаванні гасцям падрыхтавала майстэрня смаку ŽORNY. На памяць пра гэты цёплы зімовы вечар фатограф і аўтар нашага часопіса Марыя Сонгаль зрабіла на майстар-класы цудоўныя фотаздымкі.

### Абмен паштоўкамі на "Млыне"

З 26 па 28 лютага ў Мінску праходзіў "Млын" – найбуйнейшая выстава рукадзелля. ALOVAK зладзіў на выставе сапраўдную зону творчасці! На нашым стэндзе ўсе ахвотныя маглі намаляваць паштоўку і абмяняць яе на любую іншую, што была намалявана папярэдне. У распараджэнні наведвальнікаў былі нарыхтоўкі для паштовак, маркеры і, вядома ж, алоўкі. З вялікім задавальненнем малявалі як дзеці, так і дарослыя. А нехта падыходзіў да нас нават некалькі разоў :)

### Кветкавая сустрэча

22 сакавіка мы зноў сустрэліся з нашымі чытачамі ў тайм-клубе "Сямейны падворак" і разам малявалі кветкі для рубрыкі "100". Натхняліся як сапраўднымі раслінамі, так і прыдуманымі. Сама сустрэча атрымалася неверагодна маляўнічай: кветкі стаялі ў вазах, былі намаляваныя ў кнігах, а таксама адлюстраваны ў нашых малюнках. Многія з нас нават прыйшлі ў адзенні з кветкавым прынтам! Адным словам, вясенні настрой усім быў забяспечаны!

*Дзякуй за ваш удзел, сябры! Хутка будуць новыя сустрэчы!*

# ШТО ВАС НАТХНЯЕ?

Гэтае пытанне мы задалі аўтарам часопіса і тым, хто ўдзельнічаў у яго стварэнні. Глядзіце, якія разнастайныя адказы мы атрымалі!

**Лена Лосева, стыліст:**

Натхненне я атрымліваю адусюль: ад цікавых людзей вакол, незвычайных дэталяў у адзенні, спалучэнняў колераў, месцаў з асаблівай атмасферай, часам нават ад песень у маім плэеры. А яшчэ абмежаванні – менавіта яны часцяком становяцца прычынай узнікнення нашмат больш класных ідэй, чым свабодны творчы палёт.

**Маша Кліменцьева, аўтар:**

Мяне натхняюць людзі! Нават хуткая размова з цікавым, светлым, творчым чалавекам выклікае простае жаданне быць такім, як ён: не баяцца цяжкасцяў, адкрываць сваю душу і свет праз творчасць, і галоўнае, стаць крышачку дабрэйшай і працейшай. Размова – нібыта прымаеш гэты сонечны прамень ад чалавека і перадаеш яго далей, запальваеш ім іншых людзей вакол. Неверагодна натхняе прырода, любая – і дождж, і сонца, і хмары, і зоркі. А асабліва натхняе шчыры водгук людзей: калі ім падабаецца зроблены ўласнымі рукамі падарунак і невялікая дапамога ў чым-небудзь, гэта прымушае цябе рабіць яшчэ больш.

**Аксана Лязоўская, аўтар:**

Мяне натхняе мая сям'я, любімыя сябры, добрыя кнігі, цікавыя фільмы, шпацыры. А ўвогуле натхненне паўсюль, варта толькі падняць вочы і прыгледзецца.

**Яўген Грабкін, фатограф:**

Натхняюць новыя месцы, гарады, людзі ў гэтых месцах. А яшчэ больш мяне натхняюць дзеці!

**Вольга Яцкевіч, ілюстратар:**

Натхняюць вельмі розныя рэчы і людзі. Гэта нейкія дзеі з жыцця, мае родныя і сябры, працы іншых мастакоў, фатографаў, аніматараў, прыгажосць прыроды, вясна і сонечнае надвор'е.

**Анастасія Вахоніна, ілюстратар:**

Мяне натхняе навакольны свет: мая маленькая дачка, шчаслівыя, прыгожыя, творчыя людзі, прырода. Спрабую разглядзець прыгажосць ва ўсім, што ёсць вакол мяне.

**Ірына Агейчык, аўтар:**

Памятаеце, як мульціку: "Рабі дабро і кідай яго ў ваду". Вось такі дэвіз натхняе.

Фота: Катерина Буто

## ДА СУСТРЭЧЫ!

**наш сайт:**

alovakmag.by

**мы ў сацыяльных сетках:**

facebook.com/alovakmag

vk.com/alovakmag

**мы ў інстаграме:**

@alovakmag

